# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 5 (675) 2 ЛЮТАГА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### У САКОЛЦЫ

18 студзеня ў Саколцы адбылася павятовая акадэмія прысвечаная 50-ай гадавіне БССР. Прыбылі на яе жыхары Саколкі, прадстаўнікі ўлад на чале з сакратаром прапаганды КП таварышам Цішэўскім. Вёў акадэмію старшыня аддзела БГКТ Аляксандр Рафаловіч, а даклад чытаў інструктар ГП на Сакольскі аддзел Анатоль Севастыянюк.

Пасля акадэміі выступіла эстрада ГП «Лявоніха», а пазней адбылася танцавальная вечарына.

### У СЯМЯЦІЧАХ

Арганізатарам павятовай акадэміі ў Сямяцічах, прысвечанай 50-ай гадавіне БССР (адбылася яна 19.I.1969), быў аддзел Беларускага таварыства ў Мілейчыцах. Узялі ў ёй удзел прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад (у тым ліку трох сакратароў КП ПАРП), грамадскіх арганізацый, кіраўнікі паасобных устаноў і прадпрыемстваў. Акадэмію вёў старшыня гуртка Беларускага таварыства ў Сямяцічах (ён жа сакратар гарадскога камітэта ПАРП) таварыш Датчук. Даклад чытаў старшыня Сямяціцкага аддзела БГКТ (з сядзібай у Мілейчыцах) Анатоль Мартыновіч.

На акадэмію прыбыло многа людзей. Вялікая зала павятовага дома культуры з 260 месцамі была перапоўнена. Зала была прыгожа ўбраная. На мастацкую частку склаліся: 1) выступленні дэкламатарскага гуртка павятовага дома культуры. Вершы былі аб Савецкай Беларусі і беларускіх пісьменніках; 2) выступленні эстрады «Лявоніхі». Закончылася акадэмія цікавай вечарынай.

І ў Саколцы, і ў Сямяцічах даклады чыталіся на беларускай мове.

### НАВАГОДНІЯ ЁЛКІ

19-га студзеня аддзелы Беларускага таварыства ў Мілейчыцах, Гайнаўцы і Саколцы арганізавалі навагоднія ёлкі для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі БГКТ.

### НЕКАТОРЫЯ ДАНЫЯ З 1968 ГОДА

Беларускае таварыства ў Сямяціцкім павеце на 31.XII.1968 года налічвала 527 членаў. Да найбольшых, паколькасці членаў, залічваюцца гурткі БГКТ: у Мілейчыцах — 144 члены, Вілінаве — 60 членаў, у Сямяцічах — 36, у Клюковічах — 35, у Рагачах — 34, у Тымянцы — 27, у Літвінавічах — 26, у Мікулічах — 22, у Вычулках — 21 і Нурцы (станцыя) — 21.

Члены БГКТ у мінулым годзе заплацілі членскіх складчын на 3220 зл. У 17 гуртках адбыліся па 2—4 сходы. У сувязі з адзначэннямі розных гадавін аддзел арганізаваў у мінулым годзе 38 гутарак, 27 спатканняў, 13 акадэмій, 57 вечарын і 13 дакладаў. 26 гутарак праведзена аб Беларусі. На гэтую тэму было арганізавана 38 фотавыставак у школах і клубах.

У павеце працуе 11 аматарскіх калектываў з беларускім рэпертуарам, якія далі ў мінулым годзе 61 выступленне, а эстрада «Лявоніха» дала 30 канцэртаў.

Кінаперасоўкай ГП было прадэманстравана 22 савецкія фільмы. Нашыя паэты Алесь Барскі і Віктар Швед правялі 11 аўтарскіх сустрэч.

Аддзел БГКТ супольна з ГС-ам у Мілейчыцах у вёсках Мікулічы і Рагачы арганізавалі курсы варэння і пячэння. На будову этнаграфічнага музея ў Белавежы актывісты аддзела ўнеслі 1640 зл. (мх)



Беласток зімою. Фота: Г. Рагазінскі

## НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

Згодна са статутам БГКТ у канцы лютага гэтага года канчаецца пятая кадэнцыя ўлад нашага таварыства. Але ўлічваючы цяжкі зімовы перыяд праводжання справаздачна-выбарчай кампаніі ў гуртках, апошняе пленум Галоўнага Праўлення (1.XII. 1968) вырашыла запачаткаваць яе ў студзені. Закончыць у аддзелах да канца красавіка, а VI з'езд БГКТ правесці ў маі гэтага года.

Справаздачна-выбарчая кампанія ўжо запачаткавана ў гуртках. Справы ўнутрыарганізацыйныя ў I квартале спалучаюцца ўсюды з адзначэннем 50-годдзя БССР, у II квартале — са святкаваннем 25-годдзя ПНР. Цешаць нас дасягненні Беларускай Рэспублікі ў галіне эканомікі і культуры, узрост яе аўтарытэту ў СССР і на міжнароднай арэне, пашырэнне супрацоўніцтва і добрасуседскіх адносін з нашай краінай. Адначасова святкаванні 25-годдзя ПНР у нашых асяроддзях звязаны з атрыманнем праз беларускую нацыянальную меншасць першай магчымасці сапраўднага грамадскага авансу — роўных правоў да працы, навукі, развіцця сваёй культуры. Нейкую частку працы ў гэта ўнясло таксама Беларускае таварыства. І таму наша справаздачна-выбарчая кампанія не толькі фармальна звязваецца з гэтымі гадавінамі, але стаецца дзякуючы ім багацейшай у элементы зазнаямлення членаў БГКТ і ўсяго насельніцтва з дасягненнямі суседніх народаў. Кожнае пасяджэнне гуртка БГКТ у тым і кожная справаздачна-выбарчая канферэнцыя павінна, у залежнасці ад таго, у якім квартале яна праводзіцца, мець акалічнасны даклад на тэму адной з вышэй успомненых гадавін. Неабходныя матэрыялы ГП БГКТ дасылае даволі часта.

Але арганізацыя наша мае свае хвалюючыя праблемы. Гледзячы на гадавыя справаздачы апошняй кадэнцыі ГП БГКТ кідаецца ў вочы паступовы агульны рост дзейнасці нашай арганізацыі, а разам з тэтым і аўтарытэту. Ужо зараз нельга не лічыцца з яе, напрыклад, выдавецкай спадчынай — 22 кніжкі з агульным тыражом каля 95 тысяч экземпляраў, падрыхтоўка якіх абаперта была на грамадскіх пачатках. І хоць мелі яны недахопы, але дзякуючы цікава дабранай тэматыцы прац і таннасці, трапілі ўжо да чытачоў гарадоў і вёсак, а нават даследчыкаў паасобных галін у краіне і за яе межамі.

Нельга таксама не ўлічваць каля 2000 канцэртаў эстрады «Лявоніха», якія яна дала на Беласточчыне на працягу 8 год свайго існавання. Некаторыя члены БГКТ лічылі, што энтузіязму і за-




патрабаванняў на яе канцэрт, хопіць на 1—2 гады. Аказалася, што патрэбы ў наладжванні такіх канцэртаў існуюць далей і перавышаюць нават планавыя магчымасці «Лявоніхі» — 240 выступленняў у год.

Можна было б паказаць яшчэ дзесятак розных галін дзейнасці БГКТ (кіно, апека над мастацкай самадзейнасцю, школамі, арганізаванне конкурсаў, музея, фотавыставак, праводжанне гутарак і акалічнасных акадэмій і г.д.), якія мелі надта вялікае ўздзеянне на культурнае жыццё нашай нацыянальнай меншасці і прылеглых раёнаў і што размах іх не паменшыўся ў апошняй кадэнцыі, а ўзрастаў, стаўся больш планавым. Відавочна, далей гэтыя доўгатэрміновыя напрамкі дзейнасці будуць развівацца, дасканаліцца таму, што яны адказваюць патрэбам насельніцтва і нашым статутовым заданням. Паводле іх у той ці іншы спосаб звонку будуць ацэньваць усю працу Беларускага таварыства.

Аднак аўтарытэт БГКТ залежыць не толькі ад ліку культурных мерапрыемстваў. Сіла яго ў арганізацыйнай пруткасці, у працы гурткоў БГКТ, ад-

(Працяг на стар. 4)

У нас, на Беласточчыне, найлепшыя шанцы развіцця мае прамысловасць, асновай якой з'яўляюцца сельскагаспадарчыя прадукты. Адным з гэтага роду прамысловых прадпрыемстваў ёсць менавіта «Спомаш» — Вытворчае прадпрыемства машын і прылад для спажывецкай прамысловасці. Прадукуе яно неабходнае абсталяванне для прадпрыемстваў, якія перапрацоўваюць сельскагаспадарчую сыравіну.

«Спомаш» за гады народнай улады з невялікай і прымітыўнай рамесленнай майстэрні разросся ў буйнае металаапрацоўчае прадпрыемства. Спачатку памяшчаўся ён у Беластоку, на вуліцы Чыстай. У мінулым годзе перабраўся ў Стараселыцы пад Беластокам. Там пабудавана яму новыя прасторныя заводскія карпусы.

Справа не абмежавалася толькі да змены месца. Адначасова аж на 240 працэнтаў ўзраслі прадукцыйныя заданні прадпрыемства. У грашах гэта складае суму ў 88 мільёнаў злотых.




Пераезд на новае месца прынёс для прадпрыемства шмат непланаваных турбот. Прышлося папаўняць рабочы калектыў. На працягу 1968 года ў прадпрыемстве «Спомаш» знайшло працу 400 новых рабочых, тэхнікаў і інжынераў. Адначасова змяніўся дырэктар, пачало працу завадское канструкцыйнае бюро, якое апрацоўвае ўласныя праекты.

Усе гэтыя змены арганізацыйнага характару не затармазілі аднак прадукцыі. План 1968 года быў перавыканаты на 25 мільёнаў злотых.

Прадпрыемства «Спомаш» спецыялізуецца ў прадукцыі машын і абсталявання для вырабу дрожджаў. Гэта яго будучыня. «Спомаш» у гэтай галіне прадукцыі закваліфікаваны Саветам узаемнай эканамічнай дапамогі як вядучае прадпрыемства і мае абавязак дастаўляць апаратуру для вырабу дрожджаў усім краінам народнай дэмакратыі. Ужо цяпер аж 90 працэнтаў гэтай прадукцыі прызначаецца на экспарт — галоўным чынам у Савецкі Саюз і ГДР.

Прадукцыя прадпрыемства «Спомаш» адзначаецца высокімі якасцямі, мае яна перш за ўсё або экспартны або антыімпартны характар. Адзін прыклад. «Спомаш» прадукуе абсталяванне, якое **носіць** тэхнічную назву «флюідацыйная сушарка». Гэтага тыпу абсталяванне купіць можна толькі ў Італіі. Ніякая іншая еўрапейская краіна яго не прадукуе. Такім чынам «Спомаш» выручае нашу дзяржаву ад неабходнасці пакупкі гэтага абсталявання за тысячы долараў. Гэта менавіта і ёсць антыімпартная прадукцыя.

У 1970 годзе «Спомаш» выходзіць са сваёй прадукцыяй за Беласток. **За кошт у 95 мільёнаў злотых будуе ён у Саколцы свой філіял.** Сакольскае прадпрыемства пачаткова прыме да працы 700 чалавек. Яго прадукцыю плануюць на 150 мільёнаў злотых. Пасля, згодна з перспектыўным планам, сакольскае прадпрыемства будзе двойчы разбудоўвацца і астаткова знойдзе там працу 1500 чалавек.

Гэта вялікі ажыўляючы ўкол для Саколкі. Адначасова аднак і клопат. Прадпрыемства будзе патрабаваць добракваліфікаваных рабочых — слёсараў, сваршчыкаў, токараў і т.п. У Саколцы механічнага тэхнікума няма. Існуе толькі школа будаўлянага рамяства. Прадпрыемства «Спомаш», выкарыстоўваючы веды сваіх інжынераў і тэхнікаў, ахвотна дапамагло б наладзіць у Саколцы механічны тэхнікум. Вучні гэтага тэхнікума маглі б таксама праходзіць практыку ў прадукцыйных цэхах прадпрыемства «Спомаш». Гэта крыху нявыгадна, бо трэба было б даязджаць у Беласток, але вучні ўжо ў час навукі прывучаліся б да канкрэтнай, будучай працы, засвойвалі б цяжкія тэхналагічныя працэсы. Астаткова справу механічнай школы ў Саколцы мае вырашыць Куратарыя Беластоцкай школьнай акругі.

Не ўсё аднак укладваецца так добра. Дырэктар прадпрыемства «Спомаш», тав. **Зыгмунт Баброўскі** перш за ўсё наракае на гарадскую камунікацыю.

— Кожны дзень па некалькі дзесяткаў рабочых спазняецца нам да працы. Усе ў сваё апраўданне паўтараюць адно: не забраў мяне аўтобус. І я ім веру. Бо Стараселыцы, якія сталіся ўжо

(Працяг на стар. 4)

◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### МАСКВА ЗАПРАШАЕ ВАШЫНГТОН

Савецкі Саюз заявіў у апошні час, што «гатовы прыступіць да сур'ёзнага абмену поглядамі з урадам Злучаных Штатаў у справе ўзаемнага абмежавання і далейшага памяншэння колькасці стратэгічных сродкаў дастаўляючых да мэты тэрмаядзерную зброю, уключна з абмежаваннем абаронных сістэм».

Савецкая заява адначасова сцвярджае, што да памяншэння напружання ў свеце прычынілася б рэалізацыя прапаноў, якія СССР склаў ужо раней на XXIII Сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. А вось яны:

- забарона тэрмаядзерных доследаў пад зямлёю;
- забарона палётаў бамбардзіроўшчыкаў з тэрмаядзернай зброяй на барту па-за межы паасобных дзяржаў;
- абмежаванне радыуса плавання падводных лодак з ракетнай зброяй;
- ліквідацыя ваенных баз на чужых тэрыторыях;
- стварэнне бязатамных зон у розных частках свету.

Неабходна падкрэсліць, што савецкая заява прыйшла ў самую пору. Збеглася яна з абняццем прэзідэнцкай пасады Ніксанам. З такога пункту гледжання — гэта запрашэнне новай адміністрацыі ЗША да сур'ёзных разбраенёвых перагавораў. Ці Ніксан прыме савецкую ініцыятыву? Ці выкарыстае шанц перагавораў?

### КОЖНЫ ДРУГІ...

Федэратыўная Рэспубліка Германіі заўсёды стаяла за тое, каб войска ЗША, Вялікабрытаніі і іншых краін членаў НАТО прабывалі на яе тэрыторыі. Амаль усе танкавыя часці Вялікабрытаніі знаходзяцца ў ФРГ. Сёмая амерыканская армія разам з авіяцыяй налічвае 200 тысяч людзей. Заходняя Германія «дарабілася» сама амаль паўмільённай арміі, якая складаецца з усіх відаў узбраення. Зараз кожны другі салдат сухапутных войск НАТО з'яўляецца немцам з ФРГ.

### УЦЁКІ

Антываенныя тэндэнцыі насільваюцца ў паўднёва-в'етнамскай рэжымовай арміі, інфармуе агенцтва НФВ «Вызваленне». Дэзэрціраства, пераваpоты і бунты ў сайгонскай арміі ахапілі 900 тыс. чалавек (ад 1961 г.) Усеагульнымі былі калектыўныя ўцёкі цэлых узводаў, рот, а нават батальёнаў.

### ЗА ПРЫСЯДЗІБНЫМІ ЎЧАСТКАМІ

На старонках савецкага часопіса «Вопросы экономики» Л. Калінін выказваецца за ўтрыманне прысядзібных участкаў у СССР. Зараз складаюць яны 3,2 працэнта апрацоўваемай плошчы зямлі. «Не развіваюць яны, — піша Калінін, — інстынктаў дробнага ўласніка ні ў большай ні ў меншай меры, чым... дамы, самаходы і ашчаднасці. Калі б іх (прысядзібныя ўчасткі — А.К.) забараніць, асудзіць трэба б таксама індывідуальную ўласнасць». А.К.



## БССР

### ПАСТАНОВУ

Апублікавана пастанову Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі аб абавязацельствах калектываў перадавых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў рэспублікі зрабіць 1969 год годам Ленінскай ударнай працы.

У пастанове ўказваецца на канкрэтныя абавязацельствы прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, прынятыя ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння Леніна.

### «БЕЛАРУСЬ»

Мінскае выдавецтва «Беларусь» значна павялічвае выпуск перакладных кніжак з моваў братніх народаў і замежных краін: выбар паэзіі Лермантава ў перакладзе на беларускую мову, затым «Спеў аб Гаявацe» Г. Лангфела, гумарыстычныя апавяданні ўкраінскага сатырыка Вішні, анталагічны зборнік лужыцкай паэзіі «Там, дзе Шпрэвя шуміць», Я. Корчака «Кароль Мацюсь I», А. Сент-Экзюпеpы «Маленькі прынц», дзіцячыя творы Л. Талстога, і інш.

### ЭЛІТУ

Так шчасліва склалася, што за апошнія паўтара месяца мінчане пабачылі ўсю эліту польскай эстрады: выступалі «Чырвоныя гітары», У. Шчэпаньская, Рэна Рольская, Н. Урбана, Е. Паломскі, Барыс Стан.

### ВЫСТАЎКА

У сталіцы Беларусі наладжана надзвычай багатую выстаўку беларускай кніжкі. Газеты адзначаюць, што такой выстаўкі яшчэ ні разу не было.

### «ГІСТОРЫЮ»...

Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук Беларускай ССР падрыхтаваў двухтомную «Гісторыю беларускай літаратурнай мовы». Абодва тамы ўжо выйшлі з друку.

### СТАРАДАЎНІ

У аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі Саюза ССР імя У. І. Леніна, захаваўся старадаўні зборнік помнікаў народнай паэзіі. У ім шмат матэрыялаў з Беларусі. Уступны агляд гэтай знаходкі сведчыць, што зборнік быў складзены ў XVIII стагоддзі; магчыма, у 1769 годзе зборнік перапісана з некалькіх іншых зборнікаў.

Знаходзіўся ён у архіве вядомага рускага вучонага, гісторыка літаратуры, М. С. Ціханравава.

### ДЗВЕСЦЕ

Прыблізна дзвесце год таму назад існаваў на Беларусі першы прафесіянальны балет т. зв. «Сялянскі балет» Тызенгаўза, гродзенскага старасты. Балет аб'ехаў усю Еўропу.

Пра гэтую нязвыклую гродзенскую гісторыю пісаў беларускі друк.

### ГАЙКОВІЧА

«Літаратура і мастацтва» змясціла матэрыял пра Івана Гайковіча, аднаго з беларускіх абаронцаў Вестэрплятэ, які паходзіць з Маладзечаншчыны. Дагэтуль лёс Івана Гайковіча быў невядомы. (С. Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ВОДПУСКІ

21 студзеня адбылося ў Варшаве IX пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай Рады прафсаюзаў, прысвечанае разгляду праекта пастановы аб водпусках. З дакладам выступіла сакратар Цэнтральнай Рады — Ірэна Срачынская. Сцвердзіла яна, што праект пастановы з'яўляецца адным са звяноў палітыкі народнай дзяржавы, якая ад самага пачатку імкнецца да пашырання праву рабочага класа, а гэтым самым да паменшвання розніц паміж рабочым класам а інтэлігенцыяй. Згодна з новым праектам размеры водпуску залежаць ад гадоў працы. Працаўнікі, якія працуюць менш як 3 гады, будуць мець 14 рабочых дзён водпуску. Пасля 3 гадоў водпуск будзе — 17 дзён, пасля 6 гадоў — 20 дзён, а пасля 10 гадоў — 26 рабочых дзён. У гады працы ўлічваецца таксама перыяд вучобы, у выніку чаго ўсе працаўнікі ва ўзросце 26—27 гадоў будуць мець умовы да атрымання поўнага месячнага водпуску. Пастанова будзе абавязваць у аднолькавай меры чорнарабочых, як і інтэлігенцыю. Праект пастановы ўнесены будзе прафсаюзнымі дзеячамі ў абрады Сейма.

### ТВП

Адбыўся V з'езд Таварыства папулярызацыі ведаў (ТВП). З'езд стаўся аглядам дасягненняў гэтай арганізацыі, якая ўжо 19 гадоў пашырае сярод шырокіх кругоў насельніцтва веды з галіны навукі, тэхнікі і мастацтва. Падчас абрадаў з прамоваю выступіў сакратар ЦК партыі Ян Шыдляк. Паклікаючыся на словы Уладзіслава Гамулкі выказаныя ім на V з'ездзе партыі — Ян Шыдляк падкрэсліў, што найлепшай гарантыяй нашых перамог у гаспадарчым спаборніцтве з капіталізмам з'яўляецца цесная сувязь нашай сацыялістычнай рэвалюцыі з навукова-тэхнічнай рэвалюцыяй. Прамоўца ўказаў на некаторыя новыя заданні і праблемы, якія стаяць перад прапагатарамі ведаў у сувязі з тым, што грамадства нашае стаецца штораз больш адукаваным і ўсё хутчэй даходзяць да кожнай адзінкі інфармацыі з усяго свету.

### У КРАКАВЕ І ШЧЭЦІНЕ

У Кракаве і Шчэціне адбыліся ваяводскія справаздачна-выбарчыя канферэнцыі партыі. У канферэнцыі ў Кракаве прыняў удзел член Палітбюро партыі, прэм'ер Юзэф Цыранкевіч, у Шчэціне — міністр замежных спраў — Стэфан Ендрыхоўскі. З дакладамі выступілі I сакратары Ваяводскіх камітэтаў партыі: у Кракаве — Чэслаў Дамагала, у Шчэціне — Антоні Валяшак. Таварыш Чэслаў Дамагала ў сваім выступленні звярнуў, між іншым, увагу на вялікую ролю мастацтва і яго стваральнікаў у выхаванні новага сацыялістычнага грамадства. Антоні Валяшак пераанализаваў перш за ўсё гаспадарчыя дасягненні свайго ваяводства і ўказаў на адзінства радоў рабочага класа і яго падтрымку партыі ў барацьбе з рэвізіянізмам. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАРП

У днях 30—31 студзеня г.г. працавала ў Беластоку Ваяводская справаздачна-выбарчая канферэнцыя Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Больш дакладна аб канферэнцыі паінфармуем чытачоў у наступным нумары «Нівы».

### ДЗЕНЬ ГАНДЛЁЎЦА

29 студзеня адзначаецца ў Польшчы як «Дзень працаўнікоў гандлю». З гэтай нагоды 4 лютага адбудзецца ў Беластоку ўрачыстае пасяджэнне. Святкаванне «Дня працаўнікоў гандлю» ў паветах працягваецца ад 25 студзеня да 9 лютага г.г. Арганізацыйным камітэтам кіруе намеснік старшыні Прэзідыума ВРН у Беластоку Эдмунд Шчэпаньскі.

### КОЛЬКІ НАС?

Як падае Ваяводскае статыстычнае ведамства, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства пражывае зараз 1 мільён 186 тысяч чалавек. 30 працэнтаў сярод іх — гэта дзеці і моладзь. Аказваецца, што жанчыны жывуць даўжэй ад мужчын і таму на кожных 100 мужчын прыпадае 104 жанчыны. У 1968 годзе на тэрыторыі Беласточчыны пажанілася 18.200 чалавек. Найчасцей жэняцца ў нас людзі ва ўзросце 20—24 гады.

### ЦЕРАСПАЛОСІЦА

У апошніх гадах наглядаецца актыўнае наступленне на цераспалосіцу, якая асабліва надакучыла гаспадарам усходніх паветаў Беласточчыны. План камасацыі зямлі на 1969 год прадбачвае: у Сакольскім павеце — амаль 13 тысяч га, у Бельскім — 7 тысяч га, у Беластоцкім — амаль 4 тысячы га, у Гайнаўскім — 2 600 га, Дуброўскім — 5 200 га, у Сямяціцкім — 8 200 га. Разам — амаль 47 тысяч га. У мінулым годзе праведзена камасацыю палосак на плошчы ў 30 580 га.

### КОНКУРС

З нагоды 25 гадавіны Польскай Народнай Рэспублікі Ваяводская і Гарадская бібліятэкі супольна з Ваяводскім праўленнем Лігі жанчын аб'явілі чытальніцкі конкурс для жанчын Беластоцкага ваяводства. Каб прыняць удзел у конкурсе, неабходна прачытаць прынамсі дзве кніжкі, якія па сваймy змесу адносяцца да пасляваеннай гісторыі нашай краіны.

### ПЛЁН ПАЛЯЎНІЧЫХ

У мінулым паляўнічым сезоне паляўнічыя Беластоцкага ваяводства прадалі дзяржаве: 16 тон сарнаў, 22 тоны аленяў, 14 тон дзікіх свіней і 12 тон лосі.

### ГАЙНАЎСКІ ЛАК

У Гайнаўцы дзейнічае цэнтр мотаабучэння, над якім апеку трымае Ліга абароны краіны. У гэтым цэнтры вывучылася ўжо 617 чалавек на шафёраў.

### КЛУБ-СВЯТЛІЦА

Лясны тэхнікум у Белавежы мае добра абсталяваны клуб, у якім можна прачытаць газеты, пагуляць у шахматы, напіцца гарбаты і кавы. (вр)




**Niedziela, 2.II.**

8.25 Program dnia. 8.30 „Twierdza na jeziorze Siwerskim" („W świecie sztuki") (Moskwa). 9.00 TV Kurs Rolniczy: „Wapnowanie a nawożenie intensywne". 9.35 „Przypominamy, radzimy". 9.45 PKF 9.55 „Nie wszystkie niedźwiedzie śpią zimą" — film radz. 10.30 Dla dzieci: „Festiwal młodych" (Swierdłowsk). 11.00 „Spotkanie" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.55 Dziennik. 12.05 „Bawcie się z nami" — Melodie od Lublińca. 12.45 „Miasto znowu żyje" — film TV radz. o odbudowie Stalingradu (w 26 rocznicę zwycięstwa pod Stalingradem). 13.20 „Przemiany". 13.50 Teatrzyk dla Przedszkolaków. 14.30 „Piórkiem i węglem". 14.55 „My-69" — teleturniej. 15.50 „Felieton literacki". 16.05 „Kobiety i małpy" — film ang. 16.55 „Pogadanka o języku" — „Nie dość słowo z widzenia znać". 17.10 Teatr Niedzielny: W. Wandurski — „Gra o Herodzie". 17.55 „Ludzie i zdarzenia". 18.10 „Bonanza! Wciórności! Olle! — Kabaret „Dreptak". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Polacy na frontach II wojny światowej" — film 20.25 „Zakochani są między nami" — film fab. pol. 21.40 Wiadomości sportowe. 21.50 „Ewa i goście" — film („Ewa").

**Poniedziałek, 3.II.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.10 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 Magazyn sportowy. 17.50 „Wersal — Poczdam" — film pol. 18.15 Kino Krótkich Filmów. 18.45 „Eureka". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. E. Bryll: „Chłopaki". 21.05 „U pisarzy Ziem Północnych" — rep. film. 21.35 „Nad Birą i Amurem" z cyklu „Od Bałtyku do Oceanu Spokojnego". 21.50 Dziennik.

**Wtorek, 4.II.**

9.20 „Teresa" — francuska nowela filmowa. 10.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: E. Ionesco — „Nosorożec". 11.35 Przerwa. 12.45 i 15.55 Przysposobienie Rolnicze: „Sporządzanie preliminarzy paszowych dla bydła". 13.20 Przerwa. 15.50 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Dwie Dorotki" — film lalkowy pol. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Giełda Piosenki". 20.40 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (pary sportowe). 21.30 „Przeciw tradycji". 21.55 Dziennik. 22.10 „Teresa" — francuska nowela filmowa.

**Środa, 5.II.**

10.00 „Proszę o książkę zażaleń" — film fab. radz. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI) „Śladami Archimedesa". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Matematyka w szkole: „Wektory zaczepione i kąty skierowane" cz. II. 15.30 i 22.35 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Niebieski migdał" („Ula i świat"). 17.25 „Telekram". 17.35 „Na morskich szlakach". 18.00 TV Kurier Mazowiecki". 18.15 „Jazz w Filharmonii". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Światowid". 20.40 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (jazda dowolna kobiet). 22.00 „U pisarzy Krakowskich". 22.20 Dziennik.

**Czwartek, 6.II.**

9.20 „Weekendy" — film fab. pol. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski: Juliusz Słowacki „Spotkania". 11.25 Przerwa. 12.45 Mechanizacja rolnictwa. „Mechanizacja ochrony roślin". 13.20 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 Mechanizacja rolnictwa. „Mechanizacja ochrony roślin". 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.50 „Z kamerą po świecie". 18.10 „Zimowy wieczór" — rep. z PGR. 18.40 „O muzyce mówią..." 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Bydgoszcz — życie literackie' — rep. filmowy. 20.35 „Poszukiwany Gruppenführer" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.30 Magazyn Medyczny. 21.50 Dziennik. 22.10 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (jazda dowolna mężczyzn).

**Piątek, 7.II.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne: „Rysunek techniczny". 10.25 „Poszukiwany Gruppenführer" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.20 Przerwa. 16.10 Program dnia. 16.15 „Wybieramy zawód". 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.05 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Don Kichot" — film seryjny, cz. I. 18.20 Wszechnica TV: „Polski Sezam". 18.50 „Karykatury Zbigniewa Ziomeckiego". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 Felieton ze Zjazdu Pisarzy w Bydgoszczy. 20.40 Teatr TV. J. Gałuszka. „Zdarzyło się w osiedlu". 22.00 Dziennik. 22.15 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (tańce parami).

**Sobota, 8.II.**

9.50 „Lekkoduch" — film. fab. wł. 11.30 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VI) Geografia: „Śląsk czarny i zielony". 12.25 Przerwa. 15.20 Program dnia. 15.25 TV Kurs Rolniczy: „Potrzeby nawożenia mikroelementami". 16.00 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.10 Program Tygodnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Gawędy wilków morskich". 17.00 „Fruwające gwiazdy" — program rozrywkowy (Moskwa). 17.50 Teatr Młodego Widza: J. London — „Meksykanin". 18.45 „Woreczki z piaskiem" — rep. filmowy. 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.05 „Zjazd Pisarzy w Bydgoszczy" — felieton. 20.15 „Lekkoduch" — film fab. włoski. 21.45 „Tele-Echo" 22.25 Dziennik. 22.40 Wiadomości Sportowe. 22.50 Film rozrywkowy.




**Piątek, 31 stycznia**

14.55 Program dnia. 15.00 Dziennik. 15.15 Program dla dzieci. 16.10 „Panorama nowin". 16.40 „Kronika życia muzycznego republiki. 1938". 17.25 Turniej TV. 18.10 „O rolnikach z Korelicz". 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 „Zaułek". Film. 20.45 Program cyrkowy. 21.45 „Tylko fakty".

**Sobota, 1 lutego**

7.45 Dziennik. 8.00 Program rozrywkowy 8.30 „Klasa robotnicza Kraju Rad". 9.30 „Życie tańca". 10.30 „Zdrowie". 11.10 „Szkatułka muzyczna". 11.40 Reportaż z narady komsomolskich i bibliotekarskich działaczy. 12.20 TV teatr dla dzieci. 14.00 „Kontrolerzy". 15.00 TV barwna. 16.30 „TV atlas narodów ZSRR. Tadżykistan". 17.30 „Przy płomyku". 18.30 Dziennik. 18.45 „Świat socjalizmu". 19.15 „Żołnierze". Film fabularny. 20.55 Mistrzostwa świata w jeździe szybkiej na lodzie (kobiety). 21.40 „Tylko fakty".

**Niedziela, 2 lutego**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 „TV punkt agitacyjny". 9.00 „Białe i czarne". 9.25 Filmy dla dzieci. 10.30 Wszechzwiązkowy festiwal twórczości dziecięcej. 11.00 „Wiejski czas". 12.00 Dla żołnierzy. 12.30 Spektakl teatralny. „Ocean". A. Sztejna. 15.30 TV barwna. 18.00 Teatr literacki. 19.00 „Siedem dni". 19.45 Ludowy artysta ZSRR Z. Stoma i ludowa artystka BSRR G. Makarowa („Aktorzy i role"). 20.30 „Samochód, pieszy, ulica". 20.45 „Tydzień sportowy". 21.00 Mistrzostwa świata w jeździe szybkiej na lodzie (kobiety).

## ◆ САНЕТ ◆

Надзея! Пазалочаны абман!
Вераніца дзён у вырай,
Мальба дзяўчат на кліраcе,
Песні закаханых у тумане.

Як сэрца людзі носяць талісман
І просяць заклінаннем, сілай,
Каб праз ноч ён у шчасце вырас,
Уліўшы ў жывых гібельны дурман.

Ўсе ловяць цень тваю, надзея,
І ў ружовых акулярах бачаць з'явы,
Хоць на іх ляжыць пячаць атравы.

І зноў правёў у марах дзень я.
І думаў, што надзея яблыкам да ног
ўпадзе —
І дзень прайшоў, сляпы, кульгавы.



* ✲ *

Апоўначы не спяць, апоўначы
гамоняць
За рэчкай у вёсцы беларускай
Нязвыклы хлопец і гармоня,
За рэчкай ў вёсцы беларускай.

Плыве па рэчцы цёплы месяц,
Быццам на стол вясельны гуска,
Як хлопца і гармоні песня
За рэчкай ў вёсцы беларускай.

Пад напяванне гарманіста
Цалуюць шчасце ў сенцах вузкіх,
Бярозкі ля дубоў плячыстых
Шумяць у вёсцы беларускай.

Ім не страшны ні навальніцы,
Ні час хуткага расстання —
З усходам белае зарніцы
Не будзе іх канца кахання.

**І. Чыквін**



## С◆М◆Е◆Х◆І

Заходзіў да маладой суседкі.

— Чаго смутная! — ён мог быць яе бацькам.

Яна сказала:

— Муж у бальніцы, — гаварыла гэта кожны раз і тым жа безнадзейным голасам.

Падыйшла да люстра, прычасалася. Акно заслоненае шэрым небам.

— Зачыні дзверы, — чамусьці сказала яна.

— Я пайду, — думаў, куды? — Адпачні.

— Не пацешыш мяне, — пажартавала, ці запытала? Губы сухія.

«Вон, вон!» — падганяў ён сябе. Хто яго ведае, як думаць аб жанчынах?

Выходзіў хутка ад маладой суседкі.

— Мне час на службу, — гаварыў ён.
— Мо ў чым дапамагчы? — пытаў яе.
— Калі што трэба, ты кажы, — запэўніваў яе.

Выходзіў хутка.

— Добра, — адказвала яна. — Добра, — паўтарала, як бы спяшаючы загаварыць пра іншае.

Зачыняла за ім дзверы неахвотна. Часамі расказваў ёй анекдот і тады яна смяялася смехам, які захаборвае.

— Пасядзі яшчэ, Коля, — прасіла яго. — Паспееш у тую сваю старажоўню...

— Сторож, адказная пасада, — гаварыў ёй не свае словы. Плёў абы што, настыўшае і чужое.

І хутка выходзіў.

Муж яе, урэшце, вярнуўся з бальніцы, але сторож Колька ўбачыў яго не адразу — у трэці, ці чацвёрты дзень... Ягоная заўсёды адкрытая ветлівасць аказалася загорнутай у штосьці бліскучае, прыгожае толькі вачам. Ад таго нават яго словы як бы шахацелі на ветрыку.

— Дзень добры, пане Коля! — ад слова «пане» запахла аздобным канвертам, які доўга валяўся ў зашмальцаваных торбах усялякіх пісьманосцаў, трымалі яго дзесяткі запацелых рук, як пісьмы да тых, што выехалі далёка і не вядома куды.

— Пан прафесар моцна загарэў, — сказаў на польскі лад Колька. Сусед — выкладчык у Механічным тэхнікуме.

— А, так. Учора паўдня праляжалі над Супраслю, сонца вандравала з Афрыкі.

На вуліцы канец навучальнага года, бессаромна пуста.

— Пан прафесар задоўга ляжаў, аблезе скура.

— Новая будзе, памаладзею, — чакаў пажартунку Колькі: «Пры маладой жонцы і муж малады».

— Цяжка ў гарачыню...

Гэта яшчэ не размова. Стаялі насупроць сябе і чакалі.

— Мая вучаніца прыхварэла, галава разбалелася, — загаварыў сусед аб жонцы, ажаніўся са сваёй вучаніцай, калі закончыла яна тэхнікум і мела дзевятнаццаць год.

— О, не дзіва! — абазначала гэта: у такую гарачыню, як учора, асабліва, як учора праляжаць паўдня над Супраслю — чыстае шаленства!

Пачалася размова.

— Замаладая ў мяне жонка, пане Коля, — ніколі так не гаварыў, зрабіў намёк. Запатрабаваў шчырасці.

І Колька зараз жа расказаў аб усім, падрабязна і доўга, вельмі падрабязна, штораз падрабязней і падрабязней, як чалавек, які не мае чаго ўтойваць. Больш таго: як шчыры сведка ў судзе, сведка, якому моцна залежыць, каб суд паверыў яму, бо праўда.

— Пане Коля!... — сусед хаваўся пад зямлю. Ён не паверыў. Не паверыў, чакаў ад Колькі толькі пацвярджэння падазрэнняў, падрыхтаваў сябе выслухаць толькі крывадушнасці.

І тады Кольку знянацку сцебануў бізун цераз патыліцу, аж да пят, ад пераду. Бізун называўся прыблізна так: біць не таго, хто пагана думае, але таго, хто пагана гаворыць. Пытае бізун: памог? Чым памог? Ты?!

Колька павесіў морду на плот і стаў бульдогам.

Кожны бывае сабакам хоць раз. Мо хтосьці ніколі не быў сабакам, тады аб такім чалавеку можна сказаць, што ён чагосьці не зразумеў у жыцці, чагосьці важнага.

Пасля той размовы прыбіўся да Колькі, у старажоўку, смех суседкі, далёкі смех-прыблуда невядома адкуль: — Ха-ха-ха... (срэбрны смех)... хто падумаў бы, што я з табою, старажам, ха-ха-ха... (залаты смех)... ніхто, ніколі не паверыў бы ніхто, ха-ха-ха... (дыяментавы смех). — Ха-ха-ха...

Пяць мінут назад у старажоўку зайшоў элегантны мужчына, дыхнула ад яго вялікім розумам.

— Ваш пропуск? — запытаў яго Колька.

Мужчына вылез з шакаладнай лімузіны.

— Дазвольце пазваніць пані дырэктар, — папрасіў чыстай ветлівасцю, можна сказаць, з крынічна чыстай скромнасцю.

Дырэктарам зграбная незнаёмая, можна сказаць, празмеру зграбная.

— Нельга. Я сам. Такія правілы, — Колька забыў дадаць «выбачайце». (Не ў гуморы).

— Калі ласка, называюся... — сказаў прозвішча.

— З пані дырэктар! — крычаў Колька ў тэлефонную трубку. — Пані дырэктар?... (сказаў прозвішча мужчыны, больш не гаварыў, выслухаў, паклаў тэлефонную трубку, сціснуў зубы). — Калі ласка, — сказаў да мужчыны, саромеючыся паглядзець яму ў вочы... і ў паперы. — Калі ласка.

— Дзякую.

Мужчына выйшаў са старажоўкі, сеў у лімузіну і ўехаў на пляц, пад будынак дырэкцыі. Выйшла зграбная яна, пазнала яго, вясёлая і разумная, у белай сукенцы, дзявочай — упрыгожана ўсмешкай вельмі падобнай да ўсмешкі суседкі, як кветка да кветкі. Праз тыдзень выйшла за яго замуж.

У старажоўцы лашчыліся смехі: срэбрны, залаты, дыяментавы. Словы папрыходзілі самыя. І далёкі смех суседкі засмяяўся смехам пані дырэктар.

Колька спачатку здзівіўся, калі раптам адчуў вялікую палёгку. Вяртаўся дамоў з паднятай галавою.

**Сакрат Яновіч**

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 122

## ДАРОГАЙ ДА ДОМУ

Быў надзвычай цёмны вечар, калі на прыстанку ў полі высыпаліся з ПКС-у пасажыры і памалу сталі разыходзіцца. Арцём, які чакаў прыезду сына непадалёк, пільнуючы свайго палахлівага каня, пачуў мужны голас з цемры:

— Ці ёсць тут хто з фурманкай? А калі ёсць, то адкуль?

Арцём пазнаў голас сына і паспешна вымавіў:

— Есць, ёсць, хадзі сюды, сынку!

Сядаючы ў воз Арцём, нягледзячы на цемру, заўважыў, што сын яго, Родзік, якому няпоўных дваццаць адзін год, загадаваў доўгія аж на плечы валасы і запусціў даволі значную бараду. Цёмна зрабілася ад гэтага Арцёму. Таму едучы мажліва і не вязалася іхняя размова. На пытанні, якімі засыпаў сын, бацька адказваў лаканічна, а часам і не ўпапад. Ён быў цалкам аддадзены думцы, якім то спосабам падзейнічаць на сына, каб ён сёння ж вечарам збрыў сваю бараду, астрыг галаву. Каб ніхто а ніхнюткі не бачыў яго такім блазнам, ні блізкі, ні далёкі. Яшчэ пашанцавала, што прыйшлося ехаць з гэтакім лахмачом цемрай. А, барані Божа, у дзень? А сустрэцца са знаёмымі людзьмі? То ж то сорам!

Сядзяць побач. Бацька старанна падстрыжаны, пабрыты, чысцюля. Сын малакасос, як манах з барадою і з каўтунамі антычнага вялікамучаніка. І гэтая ж дурная мода — недарэчнасць, адхіл ад культуры, родзіцца і разносіцца па свеце з горада — каб яго халера пакаціла. Горад, ачаг культуры і цывілізацыі другой палавіны XX веку, выпускае на свет Божы капіраваныя вобразы дапатопных часоў, дзікуноў амазонскіх. І ты ж, Родзік, крывінка мая, сын сялянскі, дурніску ты, паддаўся ўплыву гарадскога дурноўства, і як відаць не саромішся, а магчыма ганарышся паказаць сябе дома ў роднай вёсцы гарадскім галганам. Гэтакія гарачкавыя думкі Арцёма спыніла пытанне сына:

— А ці Васілёк Казёл прыехаў дадому са Шчэціна, бо ён пісаў да мяне, што мае гасціць у вёсцы ў гэты час?

Вось тут то Арцёма асеніла. Як пачаў расказваць пра Васілька, ды так красамоўна і складна, што сам з сябе здзіўляўся. І праўду толькі сказаў у адным сказе, што Васілёк прыехаў і ўжо тыдзень жыве дома, і штодзень даведваецца, ці не прыехаў Родзік. А рэшту маніў, хлусіў як таленавіты ілгун.

— Прыехаў, — кажа — Васілёк аброслы барадою, а каўтуны аж на плячах трасуцца. Як на дзікага на яго ўсе ў вёсцы прыглядаюцца. Дзяўчаты зірнуць, адвернуцца і ў кулачкі хіхочуць. А хлопцы то проста рагочуць і ўсе тасуюцца за бараду Казла хапіць. А дзеці то заўсёды за ім, як за камэдыянтам па пятах топчуць, не адбіцца. Хоць не выходзь з хаты. А бабка Лададудзіха, сустрэўшы яго на вуліцы, хапіла за рукаў і давай Васількові ў руку бусі ляпіць.

— Што ты, кажа, бабульку, то я маладзік, вы старэйшыя.

— То што, што маладзік, але вы духоўнік-свяціцель.

— Які ж я вам свяціцель, вы не пазналі, я Васілёк Казлоў.

— А каб ты згарэў, кажа бабка, чортаў казёл з барадою, а я думала, што нейкі бацюшка з другой парафіі.

А Кастусь Бамбіза, то заўсёды пры сустрэчы з Васільком становіцца па ваеннаму «ва фронт» і гучыць на цэлу гапу: «Здравія жэлаю генерал-маёр Васіль Казёл Казловіч».

Не будзеш жа біцца з усёй вёскай. Засеў Васілёк у хаце, нідзе не паказваецца. Аж заходзіць да хаты Казлоў дзед Хамхоль і кажа:

— Ці вы чулі? Сёння мая нявестка прыехала з Беластока і кажа, што на свае вочы цуд бачыла.

— Які цуд — пытаюць дзеда, — мо Заблудаўскі?

— А зусім не тое. Армоўцы вылавілі ў горадзе ўсіх маладзікоў з зарослымі барадамі і валасамі. Завядуць іх да цырульніка, машынкай праедуць уздоўж і ўпоперак галавы і барады і абрастай здароў. То які грошы меў, то цырульнік дакончыць пад прэм'ераву прычоску, а які не меў грошай, а то найбольш, бо гэтыя валасанікі-лахмачы пераважна ж басякі ды шалуха людская, то як выйдзе з пасястай галавою на вуліцу, то ўсе ж на яго, як на амерыканца дзіўляцца, а як з пудзіла гарохавага смяюцца. Пасядзеў яшчэ крыху дзед Хамхоль і пашоў дадому. Нядоўга чакаючы выйшаў з хаты і Васілёк і рашуча пайшоў да Марытоньчука Федзі, нашага вясковага цырульніка. Астрыжаны, аголены стаў прыгожым красунчыкам, адмаладзеў на дваццаць год і скончылася пакута, пасмешышча. Калі бацька пачаў пра Васілька расказваць, то Родзік адсунуўся ад бацькі далей, нібыта для выгоды, а калі пачуў, што вёска мае свайго цырульніка, то запытаў:

— Ці то той Марытоньчук, што каля школы жыве?

— Той, той, а які спрытны майстар, гарадскі яму не дакажа.

За паваротам дарогі было відаць ясна асветленую электрычным святлом вуліцу. Родзік адразу замітусіўся на фуры.

— Я тут вылезу на крыху, вы там, заехаўшы, аднак унясіце мой чамадан самі да хаты.

— Добра, добра, сынку, — адказаў Арцём.

А Родзік па-за клунямі ў цемры пакрочыў проста да Марытоньчука Федзі, што жыве каля школы.

**Міхась Красоўскі**

## „КАЛЁНІЯ"

**На «калёніі» перад Мархалёўкаю, за могілкамі, проста ў шчырым полі стаіць хатка.**

**Гэта хата Самойлаў. На печцы, аблепленай глінаю, грэецца тоўстая кошка. Старая Самойліха дзярэ пер'е з гусей.**

**Тадзё Данько ўвайшоў першы.**

**— Нех будзе пахвалёны!**

**— Нех будзе пахвалёны.**

**— Мы прышлі да вас з батлейкаю. Хочаце, каб вам прадставіць?**

**— Га?**

**— Лялькі маем... Гэта Гэрад, гэта смерць, гэта гэтман...**

**Тадзё паказаў лялькі.**

**— А, прадстаўленне. — Паказвайце дзецям. Мы старыя...**

**Каля спадніцы Самойліхі круціцца маленькі хлопчык. Тадзё кажа, што гэта дзіця маладой.**

**— А дзе маладая?**

**— Модліцца.**

**— Хутка прыйдзе?**

**— Няхутка.**

**— Ну, то пакажам без грошай. — Хочаце?**

**Як скончылі прадстаўляць, Самойліха падзякавала і замкнула за намі дзверы.**

**Пайшлі мы на другую «калёнію» — адварочваліся і ўглядаліся на малую хатку ў полі, у якой бачылі старую Самойліху, малое дзіця і котную кошку на цёплай печы.**

**Эдвард Ярашэвіч**






(Працяг са стар. 1)

дзелаў і актыву, а таксама ў сувязях і супрацоўніцтве з іншымі арганізацыямі. А ў гэтым напрамку мы яшчэ слабыя і набіраем сіл надта памалу. Кожны год у папярэдніх кадэнцыях і ў апошняй прыбывае нам па 400—500 членаў БГКТ, прычым калі адзін аддзел у гэтым напрамку асягне рэзультаты, то другі — перажывае нейкі застой, а ў цэлым атрымліваем мінімальны ўзрост арганізацыі, утрымліваючыся заўсёды на ліку 600 — 700 членаў. Аналагічная з'ява з аплачваннем членскіх складчын. Ізноў за год наступіць іх 5—10% прыросту да агульнага ліку членаў БГКТ, але ніколі мы не асягнем поўнай рэалізацыі асноўнага членскага абавязку. Многа заўваг выклікае слабая актыўнасць гурткоў у асяроддзі. Невялікая іх колькасць вядзе сістэматычную працу і карыстаецца на роўні з іншымі арганізацыямі заслужаным аўтарытэтам, як гэта ёсць, напрыклад, з гурткамі ў Вілінаве Сямяціцкага павета, Маліінніках і Паўлах Бельскага павета, Ляшуках Гайнаўскага павета, ці Слоі Сакольскага павета. Магчыма, што гэта рэзультат слабой абслугі гурткоў штатнымі працаўнікамі і актывам БГКТ. Калі ў іншых працах нашага Таварыства, аб якіх успаміналася раней, актыў ахвотна бярэ ўдзел, то да абслугі гурткоў ён не горнецца. У аддзелах дапамогу ў гэтай працы многа год аказваюць адны і тыя ж людзі. Анаталь Мартыновіч, Іван Вішанка, Васіль Дзун, Васіль Сакоўскі, Тэлешэўскі, Аляксандр Рафаловіч, Анаталь Сакалоўскі і іншыя.

У выніку гэтага паўстае, і здаецца паглыбляецца, нейкі разрыў паміж дасягненнямі БГКТ у галіне культурнай працы і недахопамі ў арганізацыйнай дзейнасці.

Сігналізуючы гэтыя з'явы ў час гэтай справаздачна-выбарчай кампаніі давайце падзелімся на старонках часопіса вопытам у дагэтуляшняй працы, пакажам прычыны, якія ўздзейнічаюць на гэтыя дасягненні і недахопы, супольна выпрацуем новыя больш плённыя формы дзейнасці.

Сакратар ГП БГКТ
**Ул. Юзвюк**

# Дружба і філатэлістыка

Увайшоў Лясны тэхнікум у Белавежы ў сваю новую сядзібу і, маючы тут умовы для рознай працы, пачаў весці яе ва ўсіх баках. Святліца ў будынку тэхнікума вялікая і выгодная. У ёй вядуцца пастаянныя асветныя заняткі. Сёння, для прыкладу, даем некалькі здымкаў з філатэлістычнай выстаўкі ў гэтай святліцы. Таксама пару слоў скажам аб школьным гуртку філатэлістаў. Зборы гуртка маюць 6—7 тысяч паштовых марак, 1100 манет розных краін, 300 штук папяровых грошай.

Хлопцы займаюцца філатэлістыкай арганізаваным чынам. Кожны збірае на асобную тэму: адзін — аб конях, другі — аб мастацтве, трэці — са спорту і г.д. Да вымененых экспанатаў даходзяць спецыяльныя канверты з пячаткамі з выпадку важнейшых здарэнняў, напрыклад: маюць хлопцы з Белавежскага тэхнікума канверты з пячаткамі Познанскай ярмаркі, Велагонкі міру, нават унікальны канверт на 25-годдзе барацьбы за Нарвік (у Нарвегіі). Прывезены ён спецыяльна белавежскім філатэлістам.

У 1968 годзе Белавежскія філатэлісты з Ляснога тэхнікума занялі адно з першых месц у філатэлістыцы і атрымалі ўзнагароду, зразумела, паштовымі маркамі.

Перадавыя філатэлісты і найбольшыя багачы (хоць не для багацця, а для навукі белавежскія хлопцы займаюцца філатэлістыкай) гэта: **Станіслаў Баравяк** з V класа, адначасова старшыня гуртка, **Мар'ян Белбат** з IV кл, **Уладзіслаў Равінскі** з IV класа,



**Апякун філатэлістычнага гуртка Здзіслаў Новак (справа) у размове з дырэктарам тэхнікума — апекуном усялякай культурна-асветнай дзейнасці ў школе Тадэушам Макшыцкім.**

сакратар гуртка, **Юзэф Моцны** з III класа, **Юрка Менткевіч.**

Доўгагадовым заслужаным апекуном гуртка з'яўляецца настаўнік мгр **Здзіслаў Новак.**

*

Слава Белавежскага Ляснога тэхнікума ідзе далёка. І часта прыдзе ліст здалёку, якога не чакалася, а які аб



**Філатэлістычная выстаўка карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод самых вучняў.**

папулярнасці сведчыць. Напрыклад, гэты — ад Клуба Інтэрнацыянальнай Дружбы «Планета».

Яго кароткі змест: «мы (гэта значыць члены клуба «Планета» — вл) жывем і вучымся ў розных кутках Савецкага Саюза: на Украіне і ў Малдавіі, у Сібіры і на Беларусі, у Казахстане і Маскве. У нас розныя зацікаўленні, хобі і прывычкі, але ўсе мы хочам з вамі перапісвацца. Мы любім і чытаем кніжкі польскіх пісьменнікаў. Доўга застануцца ў нашай памяці словы Яраслава Івашкевіча пра старэнькую бельгійскую каралеву, якая праз кожныя пяць год прыязджала ў Жэлязовую Волю паслухаць музыку вялікага Шапэна.»

Ліст прыйшоў з Кіева, але падае многа адрасоў хлапцоў і дзяўчат з усяго Савецкага Саюза.

Прыемныя і карысныя такія кантакты моладзі нашай планеты — Зямлі.

(вл)

# ЕЖЫ ПУТРАМЕНТ ДА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

За «Літаратурай і мастацтвам» прыводзім прывітанне вядомага польскага пісьменніка Ежы Путрамента, з якім ён звярнуўся да пісьменнікаў Беларусі і да беларускіх чытачоў з нагоды 50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі:

— Нашы народы, — гаворыцца ў яго пісьме, — спрадвеку жывуць побач. І ў нашых, і ў вашых гаях і лясах аднолькава спеўна шумяць бярозы і сосны. І на гэтых спеўных чароўных землях здаўна раслі і мацаваліся традыцыі шчырай дружбы нашых народаў — братоў. І ў нас, і ў вас ёсць шмат блізкіх і падобных песень, нашы мовы, звязаныя крэўнай роднасцю, маюць шмат агульных слоў і выразаў. Працоўныя Беларусі і Польшчы заўсёды добра разумелі адзін аднаго і неаднойчы разам змагаліся і супраць чужынцаў-захопнікаў, і супраць класавых ворагаў.

Даўно цесна спляліся і здружыліся, піша далей Е. Путрамент, і нашы культуры. Беларускі край, край лясоў і азёр, узгадаваў паэзію Адама Міцкевіча і Янкі Купалы, іх абодвух натхнялі і акрылялі беларускія песні. І такая вялікая і праніклівая была чароўная сіла гэтых песень, што Міцкевіч заўсёды, да самага канца жыцця, помніў іх і ніколі не забываў нават на шумных вуліцах Парыжа і Рыма...

Блізкасць і супольнасць нашай культуры і гістарычнага лёсу нашых народаў мы адчуваем асабліва моцна сёння, калі нас яшчэ больш парадніла сацыялістычная садружнасць, калі нас аб'яднала адны мэты і адны ідэалы. Дарагія браты — беларусы, беларускія пісьменнікі і чытачы! Прыміце ад польскага пісьменніка, які нарадзіўся на вашай беларускай зямлі, у вашай слаўнай сталіцы, найлепшыя пажаданні плённага развіцця і вялікіх поспехаў вольнай Савецкай Беларусі, беларускай культуры і літаратуры!

# СПОМАШ

(Працяг са стар. 1)

буйным прамысловым прыгарадам Беластока, спалучае з цэнтрам горада адна аўтобусная лінія — № 12. Паводле нас — гэта проста скандал. Стараемся вазіць рабочых уласным транспартам. Гэта аднак не развязвае праблемы. А вось іншая справа. Нашае прадпрыемства на патрэбы жыллёвага будаўніцтва пераказала спулдзельні «Захэнта» 4 мільёны злотых. Хацелася б, каб гэтая спулдзельня будавала кватэры дзесьці недалёка ад нашага прадпрыемства.

1969 год — год юбілейны. Прадпрыемства «Спомаш» адзначыць яго грамадскім чынам і ўдзелам у выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі Польшчы, якая з нагоды 25-годдзя ПНР будзе наладжана ў Маскве.

**В. Рудчык**

## РАМЯСТВО І СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# СМЕРЦЬ КАВАЛЯ

Калі бачым палі, бачым і вёскі; калі бачым вёскі, бачым і мястэчкі. Гэтакі наш краявід.

У мястэчках рамеснікі, гэтак спрадвеку. А новыя часы ідуць ад вялікіх гарадоў, заўсёды ад вялікіх гарадоў, ніколі наадварот. Такая прырода часу. Рамеснік з трывогай паглядае ў бок вялікага горада.

Жальба рамесніка:

— У майстэрнях застаюцца адны старыя людзі. Маладыя саромеюцца рамяства, маладыя рамантыкі: шукаюць вялікай кар'еры і вялікіх грошай, і вялікай славы. Займацца рамяством гэта ім «пракалупаць» жыццё! Ах...

У нявыплаканай жальбе рамесніка шмат рацыі.

Кузні за вёскамі, пахілыя і пакінутыя, адзінока дажываюць старасць. Не могуць сцярпець свайго адзіноцтва і ў бяссільнай злосці на здаравенных хлапчын палохаюць іх начамі, калі тыя вяртаюцца папоцемку з п'янай пагулянкі. Тады: то таемны малаток застукаціць па кавадле, то сыпане іскрамі амярцвелае горна, то страшна задзьме мех... Ух-гу, ух-гу-у, дзын-дзын-зын-ын-ы-ы...

Памёр каваль.

Ад 1960 года ў сакольскіх вёсках і мястэчках такое ў 17 мясцінах. На 17 кавалёў менш стала, ніхто не заступіў іх, вучняў няма! Смерць кавалёў будзе смерцю кавалёўства, а кузні з'явяцца этнаграфічнай рэдкасцю, як колішнія ветракі на пагорках у ветраных палетках. Ветракоў замянілі млыны-пароўкі-электрасілкі, а кавалёў хто — што заменіць?

Часамі чуем вучоную размову наконт разгортвання, так званых, рамесных паслуг для патрэб сельскай гаспадаркі, сыплюцца словы пакрай вушэй, аж робіцца ясна ў чым справа: патрэбны кавалі, патрэбны рымары, патрэбны шаўцы, патрэбны печнікі, муляры... Кавалі перш за ўсё, яны ж сцяг вясковага рамяства. А мо не так? Мо ўжо важнейшае што другое, як трактар важнейшы за каня.

Спасярод першых прафесій, патрэбных вёсцы, не задумоўваюцца над старасцю адны муляры, краўцы і цырульнікі. Восем год назад на Беласточчыне майстры мулярскія мелі ўсяго двух вучняў, цяпер — шэсцьдзесят! Лікі вучняў у краўцоў — ды цырульнікаў злічваюцца ў сотні, пераважна, дзяўчат. Цвіце рамяство жаночага профілю, неадлучны знак дабрабыту. Гэта добра, але ўся мудрасць у тым, каб дапамагчы сельскай гаспадарцы, яшчэ слабамеханізаванай. Прыгожая мода, рамяство ў чыстым хвартуху, не палепшыць ураджайнасці палёў, не дасць хлеба. Такая праўда, няважна, што грубіянская.

Да адраджэння мулярскага рамяства, раней тыповага толькі мураваным мястэчкам, а зараз пашыранага і ў вёсцы прычыніліся напэўна дзве акалічнасці: рост заможнасці гаспадароў і заканадаўства, забараняючае будаваць з дрэва. А тое, што за шаўца ніхто з маладых не хоча вучыцца, высняе масавая прадукцыя абутковых фабрык. Рымараў паменшала ўдвая за апошнія восем гадоў, бо цяжка дастаць скураў, цяпер лягчэй. А, што будзе з кавалямі? Яны ж патрэбныя, іх патрэбна многа і доўга будзе патрэбна многа.

Улады спрыяюць усяляк развіццю рамяства. Напрыклад, ёсць закон, што рамеснік, у якога гадавы абарот не перавышае пяцідзесяці тысяч злотых не плаціць падаткаў. Практычна плаціць падатак (невялікі) кожны пяты вясковы або местачковы рамеснік. Затым, робіцца захады, каб прызнаць рамеснікам папулярна званую «касу хворых». Робіцца яшчэ шмат чаго, дакладней кажучы, ёсць афіцыйныя падставы рабіць палёгкі рамеснікам; рамесніку-гаспадару можна зняць частку падаткаў за гаспадарку і т.п. У Саколцы знята кіраўніка фінансавага аддзела Павятовай рады, які адчуваў шкодную справе злосць як бы да рамеснікаў, «не даваў аддыхацца». Сапраўды, у гэтым павеце рамяство ўпала, за восем год самаліквідавалася аж сорак майстэрняў. У Гайнаўскім павеце наадварот: лік майстэрняў павялічыўся амаль удвая; падобная сітуацыя ў суседніх паветах Бельскім і Сямяціцкім. А кавалёў усё менш і менш, а рымараў менш і менш, шаўцоў менш (дзе «пастроіць» туфлі?), печнікоў мала... Муляры ёсць, іх усё больш, у пяць разоў больш у параўнанні да 1960 года, краўцоў (краўчых) і цырульнікаў таксама.

Пацяшэнне, якое я пачуў, гэта такое, што ёсць шмат рамеснікаў **нелегальных**. Праўдападобна, улады глядзяць «праз пальцы» на рамеснае падполле, задаволеныя, што ўвогуле знаходзяцца яшчэ такія, якія бачаць у рамястве сэнс свайго жыцця. Мо сапраўды цяжка вынайсці болей разумнае выйсце?

Жальба рамесніка:

— Ёсць нелегальнае рамяство. Ого, ёсць! Гэта, пераважна, людзі са слабымі кваліфікацыямі, халтуршчыкі, якія адно псуюць павагу да рамяства сярод насельніцтва.

Рацыю мае гэты рамеснік, кажа праўду. Ды што з таго? З нелегальнымі мулярамі ўлады справіліся: дазвол на будову хаты даюць тады, калі гаспадар знойдзе кваліфікаванага муляра. Лёгка справіцца з чымсьці, да чаго многа ахвотных. А што зрабіць, калі трэ' падкаваць каня або пашыць хамута, або заказаць добрыя боты да работы ў полі, або...

**Кастусь Янкоўскі**

P.S. — О, трактарам і іншым машынам выгодна: іх запрашаюць ПОМ-ы, над імі танцуюць механікі ў сельскагаспадарчых гуртках. Маладыя, спрытныя хлопцы.



На здымку: Адкрытае размеркавальнае абсталяванне Бярозаўскай ДРЭС.
Фота: В. Казлова

## 50 год БССР

### ЭЛЕКТРАЭНЕРГЕТЫКА

Ужо да вайны пачалася шырокая электрыфікацыя народнай гаспадаркі Беларусі. Фашысцкія акупанты пры адступленні стараліся знішчыць у першую чаргу электрастанцыі. Пасля вызвалення рэспублікі ад чужынцаў агульная магутнасць застаўшыхся электрастанцый складала каля 5 працэнтаў ад даваеннай. Сёння адна Бярозаўская ДРЭС, якая нядаўна пабудавана, вырабляе за адзін квартал у паўтара раза болей электраэнергіі, чым усе электрастанцыі Беларусі ў 1940 годзе. Пабудаваны і даюць электрычны ток у адзіную энергасістэму «Мір» буйныя электрастанцыі ў Васілевічах, Смалявічах, Мінская ЦЭЦ—3 і іншыя. Цяпер на душу насельніцтва ў рэспубліцы выпрацоўваецца каля тысячы кілават-гадзін электраэнергіі. А тым часам узводзіцца Лукомльская электрастанцыя магутнасцю ў 2400 тысяч кілават, праектуецца пабудаваць некалькі буйных электрагігантаў на Заходняй Дзвіне, Нёмане і іншых рэках.

## Новыя кніжкі

### ЛІТАРАТУРА

**Jarasław Iwaszkiewicz, „Rozmowy o książkach”, Warszawa, 1968, Iskry ss 395, cena zł 35.00.**

Гэта збор штотыднёвых фельетонаў, друкаваных у нядзельным выданні «Жыцця Варшавы». Аўтар піша аб кніжках лёгка і даступна. Веды аб кніжцы патрэбны кожнаму сучаснаму чалавеку.

**Feliks Fornalczyk, „Przypisani tej ziemi”. Szkice T. Nowaka, J. Kawalca, E. Brylla. Karykatury pisarzy M. Mrowińskego. Poznań 1968, ss 313, zł 20.00.**

Гэтая кніжка на вясковую тэму. Усе тры вымененыя аўтары пішуць на вясковую тэму, аб вёсцы, яе людзях і гэта перадавыя ў польскай сучаснай літаратуры пісьменнікі.

### ПАДАРОЖЖА

**Michał Rusinek, „Kolorowe podróże”, Wrażenia z podróży do Brazylii, Japonii, Włoch, Jugosławii, Francji, Gruzji, St. Zjednoczonych, Wybrzeża Kości Słoniowej, Warszawa 1968, LSW, ss 328, zł 29.00.**

Асабліва маладым варта зацікавіцца гэтай кніжкай. Ды зрэшты, каму ж не прыемна за справай адной прачытанай кніжкі пабываць ва ўсім цікавым свеце. Кніжка напісана лёгка.

### РУСКАЯ ПРОЗА

**Jurij Kazakow, „Tam biegnie pies”. Tłum. z ros. W. Jurkiewicz, Warszawa 1968, PIW ss 228 zł 15.00.**

Юрый Казакаў належыць да перадавых празаікаў у СССР. Тлумачаны быў ужо на вянгерскую, чэшскую, французскую і англійскую мовы. Прадстаўляемая чытачу кніжка — гэта зборнік апавяданняў.

### ФІЛАСОФІЯ

**Zdzisław Jerzy Czarnecki „Religia i społeczeństwo w poglądach Platona”, Warszawa 1968, KiW, ss 216 zł 30.00.**

Платон — выдатнейшы філосаф старажытных часоў Грэцыі. Яго творы — гэта невычэрпная крыніца розных інтэрпрэтацый. Платон займаўся рознымі з'явамі жыцця. У прадстаўляемай кніжцы аўтар аналізуе рэлігійна-філасофскія погляды Платона.

### НАВУКА

**John Maynard Smith, „Teoria ewolucji”. Tłum. z ang. J. Mikulski, Warszawa 1968, PWN, ss 418 zł 35.00 (B.-tka Problemów T. 120).**

Як мы сталіся такімі, якімі цяпер з'яўляемся? Гэта адвечнае пытанне чалавецтва. Ці астатковы адказ хто калі дасць? Новую кніжку на гэтую тэму варта пабачыць. (вл)

## СОЛТЫС І ВЁСКА ЧЫЖЫ

Солтыс на вёсцы мае многа абавязкаў, многа розных спраў. Ён штодзённа з людзьмі, з іх клопатамі, з іх праблемамі. Солтыс з'яўляецца найніжэйшым звяном народнай улады на вёсцы і адначасова найважнейшым чалавекам свайго асяроддзя. Ужо ад даўжэйшага часу солтыс з'яўляецца на свайго роду правізіі ўзалежненай ад дахадовасці сялян і колькасці сум уплачаных падаткаў, штрафоўкі і іншых належнасцей. У большай і багацейшай вёсцы солтыс атрымоўвае большую месячную свайго роду зарплату, у меншых вёсках меншую, таму што і спраў там да ўладжвання значна менш. Апрача таго солтыс і яго сям'я «ўбяспечаны», мае бясплатнае лячэнне, 70-працэнтную абніжку на лякарствы. Адным словам праца солтыса даволі высока ацэнена дзяржавай.

У мінулым солтыс працаваў поўнасцю грамадска. Тады цяжка было знайсці саліднага чалавека, каб выконваў гэтую функцыю. Затое цяпер ахвотнікаў на солтыса вельмі многа. Многія хацелі б ім быць. Аплачваецца. Ёсць у вёсках людзі, якія стараюцца доўга памятаць усе недахопы солтыса, ды чакаюць нават на яго памылкі. А калі ўжо солтыс спатыкнецца, дык усе тыя, якія зайздросцяць солтысу і якія самі хацелі б атрымаць гэтую пасаду, пачынаюць усе факты недахопаў солтыса пераўвялічваць. З мухі робяць слана. Тады ідуць скаргі ў многія ўстановы, плывуць лісты ў многія рэдакцыі.

У Чыжах крыху інакш. Солтыса Грыню Саўчука ёсць за што абвінавачваць. І тут апраўданы скаргі ў лістах, а таксама наведванне нашай рэдакцыі дэлегацыі ў гэтай справе. Праўда, гэтая дэлегацыя не была да канца аб'ектыўная ў адносінах да паводзін солтыса, але ўсё ж мела многа рацыі.

А гэтыя рацыі наступныя. Чыжоўскі солтыс распіўся. Распіўся да таго, што п'е не толькі гарэлку, але і дэнатурат. І п'е аж да непрытомнасці. А тады яму мора па калені, цуды вырабляе, аб якіх не выпадае нават пісаць. Кампраміте сябе як чалавека, і як прадстаўніка ўлады. На яго гэткае хобі звярталі ўвагу сябры, звяртаў увагу і сакратар партыйнай арганізацыі. Але яму няма ўжо аўтарытэтаў, няма ў ім сілы цвёрда сказаць самому сабе, што перастану піць. Ён скачваецца ўсё ніжэй і ніжэй. П'е далей. А як вяртаецца дамоў, не пазнае свае хаты, не адрознівае хаты ад хлява, ці нават ад нужніка.

І вось гэтае хваравітае п'янства дыскваліфікуе Грыню Саўчука як солтыса. Такой адказнай функцыі ён не павінен выконваць.

**Міхась Сваяк**

### БЕЛАСТОЦКІ ФЕСТЫВАЛЬ КАЛЕКТЫВАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ

## Хто прыступіў?

Да мастацкага фестывалю нацыянальных меншасцей Беластоцкага ваяводства прыступілі і рыхтуюцца ўжо наступныя калектывы:

1. Хор з Бельска пад кіраўніцтвам **Міхася Артысевіча.** У праграме песні беларускія, рускія і польскія.

2. Тэатральны гурток з Сяміхоч (Сямяціцкі павет) пад кіраўніцтвам **Тадэуша Ваўжыняка.** Ставіць п'есу А. Чуркіна «Пярэстая красуля».

3. Тэатральны гурток з Мілейчыц (Сямяціцкі павет) пад кіраўніцтвам **Галіны Смалякоў.** Ставіць п'есу Юзэфа Кажанёўскага «Нарачоныя».

4 Вакальны і тэатральны гурток з Паўлаў (Бельскі павет) пад кіраўніцтвам **Аляксея Максімюка.** Ставіць п'есу Юркі Геніюша «Зямля» і спяваюць беларускія і польскія песні.

5. Вакальны гурток з Гайнаўкі пад кіраўніцтвам **Яўгенія Буйноўскага** з беларускімі і рускімі песнямі.

6. Тэатральны гурток з Гарадка (Беластоцкі павет) пад кіраўніцтвам **Ніны Мушынскай і Сцяпана Капы.** Ставяць п'есу «Суседка» і даюць слоўна-музычны мантаж па творах Янкі Купалы.

7. Тэатральны гурток са Страшава (Беластоцкі павет) пад кіраўніцтвам **Марыі Вярцінскай** з п'есай Уладзіміра Паўлючука «Конская кніжка».

8. Тэатральны гурток з Падазяран (Беластоцкі павет) пад кіраўніцтвам **Ніны Дамброўскай** з п'есай «Боты».

9. Тэатральны гурток з Меляшкоў пад кіраўніцтвам **Галіны Трахімюк** з п'есай А. Барскага «Гарадскія госці».

(вл)

## МАЙСТЭРНІ

У Гайнаўскім павеце налічваецца (канец 1968 г.) 193 рамесныя майстэрні, у тым ліку 133 майстэрні ў мястэчках і вёсках. Мала! Слабаразвіты Сакольскі павет мае іх больш.

У Бельскім павеце налічваецца 405 майстэрняў, з ліку якіх 237 у мястэчках і вёсках. Найменш у Дуброўскім павеце — 121 майстэрня (у Дуброве — 28).

Усе гэтыя майстэрні ў сваёй пераважнасці маюць няшмат чаго супольнага з праўдзівымі патрэбамі нашай сельскай гаспадаркі. (ся)

## Кніжныя багацці

Павятовая бібліятэка ў **Гайнаўцы** разгортвае сваю дзейнасць, дзякуючы 17 грамадскім бібліятэкам і 118 бібліятэчным пунктам. У 1967 г. на пакупку кніжак выдаткавана 169.700 зл, а ў мінулым годзе — 159.305 зл.

Задавальняючым ёсць факт узросту чытальніцтва грамадска-палітычнай літаратуры. Калі, напрыклад, колькасць пазычанняў грамадска-палітычнай літаратуры ў 1967 годзе сягала 1077, дык у I паўгоддзі 1968 года занатавана 1899 пазычанняў.

Міма поўнай сеткі грамадскіх бібліятэк і сістэматычнага развіцця бібліятэчных пунктаў не назіраецца тут узросту колькасці чытачоў. На 100 жыхароў Гайнаўскага павета толькі 18 з'яўляецца чытачамі бібліятэчных кніжак. Здаецца, што прычыны гэтага стану трэба шукаць у вузкай грамадскай дзейнасці бібліятэк. Інакш кажучы, супрацоўнікамі і сябрамі бібліятэк павінны стацца перш за ўсё члены ЗМВ, ЗМС, БГКТ і іншых грамадскіх арганізацый. (ак)

## Каб стацца музыкальным

«Дарагая рэдакцыя! Вельмі хачу навучыцца іграць на гітары. Парай, як гэта можна здзейсніць?» Або «Дарагая рэдакцыя! Я вельмі люблю спяваць. Мае сяброўкі таксама добра спяваюць. Парай, як арганізаваць харавы ці эстрадны калектыў?» Такіх пісем прыходзіць у рэдакцыю многа. Іх аўтары — гэта маладыя людзі, з душы якіх часта вее наіўнасцю, але нельга не прызнаць разумнага ў іх пошуках. На прысланыя нам пытанні нельга адказаць адным словам, сказам ці пісьмом. Каб магчыма шырока паінфармаваць чытачоў, мы раіліся ў спецыялістаў з Беластоцкага музычнага таварыства (БТМ).

Асновай асноў у галіне музычнай адукацыі і самаадукацыі з'яўляюцца **грамадскія музычныя агніска.** У музычных агніскаў навука працягваецца чатыры гады, а зараз пераходзіцца на пяцігадовы перыяд навучання. Ва ўсёй краіне абавязваюць аднолькавыя праграмы навучання, а метадычны нагляд над агніскамі маюць музычныя таварыствы. Навука ў музычных агнісках праводзіцца 2 разы ў тыдзень індывідуальна і 1 раз калектыўнае ўмузыкальненне або рэпетыцыі. Пасля кожнага года навукі адбываюцца пераходныя экзамены. Трэба дадаць, што навука адплатная і ад аднаго ўдзельніка выносіць 120—150 зл. Зрэшты, гэтая адплатнасць можа паменшыцца, калі, напрыклад, сельгасгурток, ГС ці малачарская спулдзельня або іншая ўстанова часткова пакрываюць кошты ўтрымання агніска. Можа таксама гурток ЗМВ ці БГКТ грамадскім чынам нешта зробіць, а заробленыя грошы перадасць на ўтрыманне агніска. І яшчэ адна вельмі важная інфармацыя: музычнае агніска — гэта толькі форма ўмузыкальнення, а не музычнай адукацыі моладзі г.зн., што не дае яно правоў паступаць у музычныя школы. Аб тым, ці хто будзе прыняты ў музычную школу, сведчаць яго індывідуальныя здольнасці, умеласць і веды. Іменна таму музычныя агніска прыймаюць усіх ахвотных вучыцца, а не толькі здольных ці ўмеючых.

Музычныя агніска існуюць у кожным павятовым горадзе апрача Сямяціч. **На вёсках развіваюць дзейнасць філіялы музычных агніскаў,** дзе настаўнікі-спецыялісты даязджаюць. Між іншым філіялы музычных агніскаў існуюць у **Міхалове, Гарадку, Боцьках.** Ёсць магчымасць сарганізавання ад зараз філіялу агніска ў **Трасцянцы,** Гайнаўскага павета. Усё залежыць ад мясцовай моладзі. Напамінаем, што па колькі навука адбываецца індывідуальна, **можа хадзіць на заняткі і моладзь з суседніх ці блізкіх вёсак.**

У Беластоку існуе таксама **«Вшэхніца музычна»** Народнага музычнага інстытута ў Лодзі Аддзел у Беластоку (адзіны ў Польшчы). Рыхтуецца тут кадру для вядзення аматарскіх калектываў. Існуе тут **5-гадовае студыюм** у секцыях акардэону, фартэпіяна і скрыпкі, а таксама **3-охгадовае студыюм дырыжораў** харавых і інструментальных калектываў. Пасля заканчэння «Вшэхніцы» абсальвенты атрымоўваюць правы да навучання ў музычных агніскаў і маюць права стаць перад праверачнай камісіяй. Здальнейшыя стаюць перад дзяржаўнай камісіяй і атрымліваюць дыпломы заканчэння музычнай школы II ступені.

Навука ў «Вшэхніцы» вядзецца завочнай сістэмай. Кожны слухач адзін раз на 2 тыдні бывае ў кансультацыйным пункце: Беласток, Элк і Ломжа, і 1 раз на 2 месяцы мае двухдзённы тэарэтычны семінар у Беластоку. У ліпені адбываецца 4-тыднёвая сесія. Міма, што навука тут платная, 200 зл, на месяц, то зварот коштаў падарожжа і начлегі, а ў ліпені ўсёмесячнае ўтрыманне, поўнасцю забяспечвае БТМ.

Да «Вшэхніцы» прыймаецца ў асноўным настаўнікаў музычных агніскаў, а **на дырыжорскае студыюм усіх, хто вядзе аматарскія харавыя ці інструментальныя калектывы.** Ад кандыдатаў патрабуецца ў асноўным сярэдняй адукацыі.

Да гэтых форм адукацыі і самаадукацыі асабліва заахвочваем настаўнікаў нашых школ. Гэта дасканалая форма адукацыі тым настаўнікам, якія закончылі СН кірунак — музычнае выхаванне і хочуць пададукаваць сябе. Прыклады сведчаць аб тым, што нават той, хто пачаў вучыцца ў «Вшэхніцы» і яе закончыў, вельмі многа скарыстаў.

**А. К.**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ХТО ВЕДАЕ ЛЁС ГЭТЫХ СЕМ'ЯЎ?

Паважаныя таварышы!

Звяртаюся да вас з просьбай дапамагчы мне, калі ласка, даведацца прозвішчы і імёны жыхароў, якія жылі ў двух доміках недалёка ад смалярнага пасёлка, што прыкладна ў 10—15 км ад Белавежы, праз які праходзіла вузкакалейка. Справа ў тым, што ў гэтых двух доміках (адзін быў на адзін бок вузкакалейкі, а другі — на другі) жылі ў часы нямецкай акупацыі вельмі добрыя дзве сям'і (па нацыянальнасці адна польская, а другая украінская). Пры гэтым паляк быў жанаты з украінкай, сястрой суседа. Прозвішчы мне невядомыя дагэтуль, але гэта былі вельмі прыемныя людзі, якія дапамаглі 5 партызанам-каўпакаўцам выбрацца з пушчы ў сакавіку 1944 года. Вось лёс гэтых сем'яў і іх прозвішчы цікавяць мяне і маіх сяброў. Акрамя таго, яны маглі б мяне паведаміць, дзе пахавалі фашысты трупы двух забітых партызан (у мадзярскіх куртках) Васі Каробка і Паўла Сычова.

Прыемна было б таксама перапісвацца з сям'ёй паляка, які меў тады 45—50 гадоў, у яго быў жанаты сын з маладзенькай полькай гадоў 16, у якой ужо было дзіця. Ён жыў на ўскраіне смалярні прыкладна 1 км ад гэтых 2-х домікаў. Гэта была таксама вельмі добрая, гуманная і прыемная сям'я. Яна сустрэла партызан усім, чым толькі магла. Партызаны (7 чалавек), якія трапілі сюды г. зн у гэтыя два домікі і на ўскраіну смалярні, адсталі ад асноўных сіл І партыз. дывізіі імя С. А. Каўпака, якая рухалася з Варшаўскага рэйду ў лютым — сакавіку 1944 года, таму, што яны былі накіраваны на знішчэнне мастоў праз пушчанскія рэкі.

Калі хто ведае аб гэтым здарэнні, просім паведаміць па адрасу: БССР, Брестская обл., Каменецкий р-н п/о Каменюки, Мамус Михаил Ник.

## У КРЫНІЦЫ

У Крыніцы (Гайнаўскі павет) жыве дваццаць тры гаспадары. Вёска невялічкая. Два гады таму ў Крыніцы арганізавана сельскагаспадарчы гурток. Купіў ён малатарню, матор, сеўнікі і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Дрэнна ў вёсцы з тым, што няма святла. Жыхары сядзяць пры газавых лямпах. Ёсць у нас крыху моладзі. Каб была святліца, цікавей напэўна праходзілі б доўгія зімовыя вечары. Штопраўда ў вёсцы ўжо многа змянілася. Пабудавана шмат новых сялянскіх будынкаў, многа моладзі пачало вучыцца ў сярэдніх школах у Гайнаўцы, Беластоку.

**Люба Ярашэвіч**
**Крыніцы**

**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву на вёсцы. Мне 24 гады. Маю старэйшых братоў, якія скончылі вышэйшую адукацыю і адзін працуе ў Вроцлаве, другі ў Варшаве. Я асталася на гаспадарцы, бо не хацела вучыцца, чаго цяпер вельмі шкадую. Аднак браты мае ўжо не вернуцца на гаспадарку. Калі мне было 18 год, дык мела многа хлопцаў, якія хацелі жаніцца. Цяпер баюся, што астануся ў старых дзеўках. Усе мае сяброўкі павыходзілі замуж (некаторыя з іх абы толькі выйсці павыходзілі за хлопцаў, якіх не толькі не кахаюць, але проста ненавідзяць). Сябры таксама пажаніліся перад войскам. На забаве гуляюць толькі тыя маладыя (да 20-ці год). Калі я пайшла на забаву, дык не толькі што ўжо не маю з кім гуляць, аднак ўсе глядзяць на мяне як на дзіва якое. Чаму я не замужняя. А я ніколі не хацела выходзіць замуж абы толькі выходзіць. Цяпер аднак дайшла да вывазу, што людзі ме-

## Сардэчныя ТАЙНЫ

лі рацыю. Трэба выходзіць тады, калі бяруць. Бо потым то кожны хлапец аглядаецца на багацце, а ў мяне яшчэ два браты, дык тлумачаць сабе, што не ўся гаспадарка належыць мне. Пазнаёмілася цяпер з хлопцам, які мне не падабаецца, ён малы, непрыгожы, дык яшчэ і вельмі многа старэйшы за мяне. Падкажы, Сэрцайка, ці выходзіць за яго? Ці мо лепш астацца ў старых дзеўках.

**Зіна**
**з Гайнайшчыны**

**Дарагая Зіна!** Аж дзіўна, што яшчэ рэшткі мінулага пакутуюць на нашых вёсках, што спосаб мыслення ў некаторых нашых вясковых людзей яшчэ не змяніўся. Усё пакутуе, што ў 24 гады гэта ўжо старая дзеўка, што жаніцца трэба не з дзяўчынай, а з добрай гаспадаркай. А відаць і тое, што большасць не ведае новых законаў, не ведае, што дзеці, якія выйшлі з гаспадарак, працуюць у гарадах, не маюць ніякіх правоў да гаспадаркі і не належыцца ім ніякая сплата.

Адносна тваіго замужаства, не раю табе, Зіна, выходзіць замуж за хлопца, да якога не маеш ніякай сімпатыі. Лепш выйсці добра замуж пасля 25-ці год, чым у 20 год са страху перад старапаненствам.

Жадаю табе ўсяго найлепшага
**Сэрцайка**

## У НАШАЙ ВЁСЦЫ

**Уладзімір Гуралеўскі**

Гэта пісьманосец, які працуе ўжо 12 год на пошце ў Рыбалах. Чалавек гэты абслугоўвае чатыры вёскі: Паўлы, Давідавічы, Цялушкі і Канюкі. Шмат мае работы. Летам усе гэтыя вёскі аб'язджае веласіпедам. Зімой, калі цяжка прабрацца нават машыне, Гуралеўскі з вялікім цяжарам мусіць абыйсці свой раён. Тэрмінова і рэгулярна прыносіць лісты, газеты. Ён з'яднаў каля 600 падпісчыкаў. Падпісчыкаў «Нівы» мае ён 167, «Газеты Беластоцкай» — 40, «Нашай Всі» — 32 і шмат іншых часопісаў. У час Уладзімір Гуралеўскі выплачвае грошы сялянам за даставу малака. Акрамя таго, робіць тое, чаго і не мусіць рабіць: прывозіць нават некаторым невялікія пасылкі ў хату.

Яшчэ можна сказаць, што ён чалавек сумленны і адносіцца да ўсіх з пашанай. Усе яго хваляць за працу і гавораць, што такога пісьманосца, як Уладзімір Гуралеўскі, больш нідзе няма.

## БУСЕЛ

У канцы снежня 1968 года ў Паўлах на рэчцы паявіўся бусел. Ніхто не ведае, чаму ён не адляцеў у цёплы край. Увесь абліты лёдам хадзіў па рэчцы, шукаючы сабе ежы. Калі мароз скаваў рэчку, бусел астаўся без ежы. Пакуль меў сілу, лётаў яшчэ па балотах, а потым прыйшоў у вёску. Не было каму прыняць беднай птушкі. 1 студзеня ўзяў бусла да хаты Віктар Галубоўскі. Даглядае ён яго старанна, корміць і трымае ў цяпле. Ёсць надзея, што бусел перазімуе ў Галубоўскага і вясною возьмецца за сваю работу.

**Колька з Паўлаў**

## ПР-Ы ГАЙНАЎШЧЫНЫ

Перамены, якія адбываюцца ў тэхніцы сельскагаспадарчай вытворчасці, стварылі патрэбу арганізавання, апрача вясковых школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якія згуртоўваюць моладзь, якая закончыла пачатковую школу і астаецца працаваць на вёсцы на бацькоўскай гаспадарцы. Разыходзіцца аб тое, каб кожны малады будучы гаспадар быў дастаткова ўзброены ў сельскагаспадарчыя веды, каб быў кваліфікаваным гаспадаром.

Арганізаванне калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, так званых ПР-аў, пачалося на Гайнаўшчыне ў 1958/59 навучальным годзе.

Зараз у Гайнаўскім павеце налічваецца 463 абсальвенты ПР-аў, якія атрымалі прафесіянальную падрыхтоўку да вядзення гаспадаркі. Абсальвенты ПР-аў з'яўляюцца ініцыятарамі многіх сельскагаспадарчых пачынанняў.

У гэтым навучальным годзе арганізавана 21 калектыў ПР-аў першай ступені і 13 калектываў ПР-аў другой ступені.

Апрача таго працуе 17 ПР-аў трэцяй ступені. Значыць зараз павышае свае кваліфікацыі ў 50-ці калектывах 656 асоб, у тым 152 дзяўчыны.

**Віталіс Назарук**
**Гайнаўка**

## КАЛЯДНІКІ

7 студзеня я з жонкай пайшоў да Дубін. Мне прыйшлося там спаткацца са старою традыцыяй каляднікаў. Гэта традыцыя занікае. Але тут у Дубінах, некалькі кіламетраў ад Гайнаўкі, яшчэ практыкуецца яна з шырокім размахам. Каляднікі пачалі хадзіць ад гадзіны 14. Спачатку хадзілі малыя, па 9—11 гадоў, без звёздаў. Спявалі калядкі і розныя прывітанні-паздраўленні.

Потым пачалі хадзіць са звёздамі і гармонікамі старшыя школьнікі па 12—14 гадоў па 5—7 асоб. Заходзілі да хаты, віталі гаспадароў і прасілі дазволу паспяваць. Пазней калядавалі старшыя хлопцы і дзяўчаты ўжо большымі групамі па 10—15 асоб з вялікімі звёздамі. Хадзілі і бабы з песнямі, але без звёздаў. Да гадзіны 18 адведала гэтага гаспадара, дзе я быў, 18 груп каляднікаў. Ніводнай групе ён не адказаў. Спявалі ў хаце і пад вокнамі. Меншыя хлапчукі і дзяўчынкі хадзілі толькі па суседзях. Дарослыя хлопцы, дзяўчаты і бабы — па цэлай вёсцы. А вёска Дубіны вялікая, налічвае больш 200 гаспадароў. Каля 19 гадзіны мы пайшлі дамоў, у Гайнаўку, ды яшчэ спаткалі па дарозе 5 груп каляднікаў.

**Васіль Дзун**
**Гайнаўка**

## ДРАМГУРТОК З МАЛІННІК

Моладзь Маліннік пад мастацкім кіраўніцтвам Міхася Іванчука падрыхтавала п'есу Алеся Барскага «Гарадскія госці». Міхась Іванчук сам у п'есе выконвае ролю бацькі і ў яго гэта вельмі добра атрымоўваецца. Таксама на вельмі высокім мастацкім узроўні іграе Вера Калішук ролю маці.

Гаворачы гэта, я дастаў з кішэні лісток паперы.

— Слухайце, — прачытаў я змест уяўнай тэлеграмы: «на вашу тэлеграму нумар... адказваю: грамадзянка Віт разам з дочкамі — назваў я іх імёны — жыве ў Казахстане ў вобласці... раёне... працуе ў саўгасе на птушкаферме. Падпісаў «Матвей». «Матвей» быў сапраўдным крыптанімам нашага цэнтра ў Маскве.

У Віта, які дагэтуль сядзеў белы як труп, зарумяніўся твар. Быў ён ашаломлены. Вочы яго засвяціліся дзіўным бляскам: праменьчыкам надзеі.

— Чаго вы патрабуеце ад мяне? — спытаў.

— Згоды на поўнае і шчырае супрацоўніцтва з намі! Без ніякай ліпы!

— У чым будзе заключацца гэта супрацоўніцтва? Чым магу вам служыць? Чаго будзеце жадаць ад мяне?

— Ці не лічыце гэтыя пытанні наіўнымі? — спытаў Нячаеў. — Падпішаце вы абавязацельства аб супрацоўніцтве з савецкім падполлем. Выбярэце сабе псеўданім, будзеце падпісваць у будучыні гэтым псеўданімам свае паведамленні. Будзеце выконваць дакладна ўсе нашыя заданні, будзеце паведамляць нас дакладна аб тым, што будзе нас цікавіць, перш за ўсё аб дзейнасці нямецкай разведкі і контрразведкі.

— Але я такога абавязацельства не магу падпісаць.

— Як хочаце, — спыніў яго я. — Калі адмовіцеся, дык павінны ведаць, што не пазволім вам выйсці жывым... Хоць бы з увагі на бяспеку хаты...

— Што вы, я не адказваюся памагаць вам, я ў вашых руках, але навошта гэтае абавязацельства, гэтая фармальнасць? Я баюся, каб абавязацельства праз нейкі прыпадак не трапіла ў рукі гестапа. Якая ёсць гарантыя, што з вамі нічога не здарыцца, калі вы будзеце адсюль вяртацца?

— Пане Віт, па-першае, такіх дакументаў мы з сабою не носім, а па-другое надта клапочацеся пра сябе. Не вельмі клапаціліся вы пра тых, якіх вывозіце ў Піліцкі лес. А вывезлі іх каля тысячы. Ані пра тых, якія сёння сядзяць у турме на Галавеску і чакаюць сваёй чаргі. Хочам, каб ад сёння клапаціліся вы за іх.

Віт падпісаў абавязацельства, потым да позніх гадзін пісаў дакладную інфармацыю аб усім, што было яму вядома пра гітлераўскі апарат прыгнечання. Апісаў яго структуру, даў характарыстыку паасобных працаўнікоў гэтага апарата ў Бельску і Беластоку, выявіў вядомых яму агентаў гестапа. Між іншым, выявіў двух агентаў, якія былі накіраваны на нас: адзін, з ваколіц Боцек, сачыў за атрадам «Пархоменкі», другі, з Бранска, за атрадам «Маршала Жукава». Атрыманыя ад Віта інфармацыі пацвердзілі нашыя папярэднія меркаванні. Мы ведалі, што той, з ваколіц Бранска, прымаў удзел у злаўленні шасці яўрэяў. Гэтыя яўрэі былі звязаны і жывымі закапаны ў зямлю. Другі, з ваколіц Боцек, крамар, здэканспіраваны насельніцтвам, хацеў уцячы ў Бельск і схавацца пад крылы гестапа. Не паспеў, быў ліквідаваны ў часе пакавання сваіх рэчаў. Такі самы лёс спаткаў і таго з-пад Бранска, і шмат іншых. Сетка агентаў бельскага гестапа была ліквідавана.

**Ян Анацік**

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Skrzydła Października" (radziecki), 4—5. „Strzelby Apaczów" 6—7. „Trzy topole" (radziecki), 8—9.

**Дубіны**

„Zamach" (polski), „Zakazane piosenki" (polski), 8—9.

**Нараўка**

„Gdzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 5—9.

**Нарва**

„Trzydzieści trzy" (radz.), „Noc bez końca" (bułg.), 5—9.

**Чыжы**

„Szybsza od wiatru" (radz.), „Falstaff" (hiszpański), 5—9.

**Дубічы Царкоўныя**

„Droga nad morzem" (bułg.), „Faraon" (polski), 5—9.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Sobótki" (polski), „Ach ci młodzi" (węgierski), 5—9.

**Орля**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 5—9.

**Райск**

„Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), „Przed wojną" (jugosłowiański), 5—9.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Drugi człowiek" (polski), „Więzy" (węgierski), 4—7.

**Міхалова**

„O carski tron" (bułg.), 4—5. „Drewniany różaniec" (polski), 6—7. „Trzy topole" (radz.), 8—9.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Salto" (polski), 4—5. „Kalosze szczęścia" (polski), 6—7. „Czas miłości" (rumuński), 8—9.

**Шудзялава**

„O czymś innym" (czeski), „Sam pośród miasta" (polski), 5—9.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Ostatni po Bogu" (polski), „Partyzant z Lilejskiej góry" (jugosł.), 5—9.

**Новы Двор**

„Poranki młodości" (rumuński), „Romanca na trąbkę" (czeski), 8—9.

**Ліпск**

„Największe widowisko świata" (USA), „Porucznik jazdy" (radz.), 8—9.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6571

3 чаго смяяліся нашы дзяды

# СЛОЎНІК САТАНЫ

«Слоўнік Сатаны» выйшаў у 1906 годзе. Аўтар яго амерыканскі пісьменнік Амброз Бірс (1842—1913). Мы выбралі жменю слоўса «Слоўніка» Бірса.

**Абдумваць.** Шукаць апраўдання для ўжо прынятага рашэння.

**Бязбожнасць.** Асноўная з вялікіх рэлігій свету.

**Вопыт.** Мудрасць, якая дазваляе ва ўжо затоеным шаленстве распазнаць старога, абрыдлага знаёмага.

**Год.** Перыяд, які складаецца з трохсот шасцідзесяці разачараванняў.

**Знаёмы.** Чалавек, якога мы ведаем дастаткова добра, каб пазычаць у яго грошы, але недастаткова добра, каб пазычаць яму.

**Іншаземны** (не-амерыканскі). Сапсаваны, нязносны, паганы.

**Карсар.** Палітык мораў.

**Мір.** У міжнародных адносінах — перыяд ашуканстваў паміж двума перыядамі ваенных сутыкненняў.

**Нянавісць.** Пачуццё, натуральна ўзнікаючае ў адносінах да таго, хто вас у чымсьці перавышае.

**Прыдзіра.** Чалавек, які крытыкуе нашу працу.

**Рай.** Месца, дзе грэшнікі перастаюць дакучаць вам размовамі аб сваіх справах, а праведнікі ўважліва слухаюць, як вы разглагольствуеце аб сваіх.

**Святы.** Мёртвы грэшнік у перагледжаным выданні.

**Трус.** Той, хто ў час небяспекі думае нагамі.

**Уцяшэнне.** Усведамленне, што чалавеку, больш вас дастойнаму, павязло менш, чым вам.

**Хваляванне.** Цяжкая немач, выклікана прыплывам пачуццяў ад сэрца да галавы. Часам суправаджаецца вялікім выдзяленнем з вачэй грыдрат — хларала натрыя.

**Цырк.** Месца, дзе сланы, коні і поні маюць магчымасць любавацца тым, як мужчыны, жанчыны і дзеці строяць дурня.

**Шчасце.** Прыемнае адчуванне, выкліканае сузіраннем чужых пакут.

**Эгаіст.** Чалавек дрэнных паводзін, які больш цікавіцца сабой, чым мною.

**Ядомае.** Прыгоднае ў страву і лёгкастраўнае, як напрыклад: чарвяк для жабы, жаба для змяі, змяя для свінні, свіння для чалавека і чалавек для чарвяка.

**Амброз Бірс**



### ЦІ ДУМАЎ

Жонка да мужа-шафёра, які толькі што вярнуўся з рэйса:

— Ці думаў пра мяне хоць трохі ў дарозе?

— Ці думаў?! Праз цябе міліцыянер мандат уляпіў!

— Ах ты, мой каханы!

### ДАПЫТЛІВАСЦЬ

Парыжскі ўрач пацыенту:

— Хочацца вас парадаваць: болей вас хвароба ўжо не будзе турбаваць.

— Тады, выходзіць, што я дарэмна да вас прыйшоў.

— О, не! Вы мне вінаваты яшчэ 100 франкаў.

### А-МАТАРЫСТ

Складаў грошы зімой,
летам,
Але справіў «мацыклета».
І як сеў на «мацыклет»,
То й паехаў на той свет...

**Яська Апалонік**



**— Ну, цяпер не сарвецца!**

### ЁСЦЬ

Хлопчык, седзячы за сталом, замест таго, каб папрасіць, цягнуўся праз увесь стол да ўсяго, што стаяла далёка.

— У цябе што, языка няма? — строга спытаў у яго бацька.

— Язык у мяне ёсць, але ж рукі даўжэйшыя!



**— Доктар, уміраю...**

**— Вы сведкі, я да яго яшчэ не дакрануўся!..**

### ШТО ТАКОЕ

Маленькі хлопчык да маці:

— Што такое «гадзіны пік»?

— Гэта такі час, калі нават мужчына, увайшоўшы ў тралейбус, не можа сесці.

### РОЗНІЦА

У карчме — яблыку няма дзе ўпасці.

Дробны шляхцюк вымушаны быў есці стоячы. А селянін, седзячы за сталом, сёрбае капусту. Абражаны шляхцюк уедліва пытае селяніна:

— А ці ведаеш ты, чым жывёла адрозніваецца ад чалавека?

— А як жа, — спакойна адказвае селянін, — чалавек есць седзячы, а жывёла стоячы.

### УМЕЕ

Прыяцель да прыяцеля, які прыйшоў на свята са сваёй 16-гадовай дачкой:

— Што, твая дачка не ўмее гаварыць?

— Умее, але толькі па тэлефоне.

### НААДВАРОТ

Малады чалавек бярэ напракат каня. Гаспадар стайні папярэджвае яго, што гадзіна верхавой язды каштуе 20 песа, але грошы трэба плаціць наперад.

«Вы баіцеся, што я вярнуся без каня?» — здзіўляецца кліент. «Зусім наадварот, — адказвае гаспадар, — я баюся, што конь вернецца без вас».

Велікаборскія пацешкі

### ВУЧОНЫ ЧАЛАВЕК

Зайшоў у хату да Аўдулі настаўнік, а Аўдуля акурат аладкі пячэ. Спячэ аладку, схопіць яе з патэльні ды ў камору бяжыць.

Падглядзеў настаўнік, што ў каморы смятана ў макатры стаіць. Аўдуля і бегала да макатра, каб аладку ў смятану ўмачыць ды з'есці. Узяў настаўнік макацёр са смятанай і ў хату прынёс, на стол паставіў.

— Чаго ж табе, Аўдуля, за кожным разам у камору бегаць, калі можна смятану ў хату прынесці...

— Дзякуй вам, вялікае дзякуй, — сказала Аўдуля. Вось што значыць вучоны чалавек! А то я век бы сваёй галавой не дадумалася...

### ХІТРАЯ

Панесла на рынак велікаборка грыбы прадаваць. А іх узялі дый укралі разам з торбаю. Вярнулася кабета дадому і расказвае мужу:

— Ну ж і кралі сёння на базары, ну ж і кралі! Але я хітрая. У другіх уранні грыбы пакралі, а я цалюсенькі дзень у руках сваіх торбу з грыбамі пратрымала, толькі пад вечар укралі...

### НАЕДНАЕ ЯЙКА

Суседка хваліцца суседцы:

— Мая рабая курачка нясе яйкі не так вялікія, як наедныя. Зварыла я адно такое яйка свайму мужу, дык ён тры дні ўжо яго есць і ніяк з'есці не можа...

### ПАГАВАРЫЛІ...

— Дзень добры, кума!
— На базары была.
— Ты што, аглухла, напэўне?
— Ага, купіла пеўня.
— Будзь здарова, кума.
— Тры з паловай аддала.

**Барыс Сачанка**



**Дасягнуўшы воблачных вышынь...**

### «КАЛЕГІ»

У Электрычнай Лямпачкі спыталі, ці ведае яна Сонца. Лямпачка адказала:

— Мы — калегі. Праўда, на Сонцы ёсць плямы і працуе яно ў дзённую змену...

**Ул. Отчык**



### БЕДНЫ ПАЭТ

Бедны паэт скардзіцца свайму сябру:

— Учора ўначы да мяне ў кватэру залезлі зладзеі.

— Ну і што ж? — запытаўся яго сябар.

— Яны абшукалі ўсе пакоі, — сказаў паэт, — а потым пайшлі, пакінуўшы на пісьмовым стале пяць долараў.

### ВЫВАД

Журналіст запытаў у стогадовага дзеда:

— Выходзіць, што ўсё жыццё вы пражылі ў гэтай вёсцы?

Дзед адказаў так:

— Думаю, яшчэ — не, не ўсё жыццё.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Яўгенія Васілюк і Мікола Паплаўскі з Плюціч, Вяслава Дзянісюк і М. Міранчук з Гарадка, Аня Ткачук і Галіна Дзмітрук з Грыгароўцаў, Янка Харытанюк з Цялушак і іншыя просяць надрукаваць словы польскай песні, якую выконваюць «Трубадуры» п.з.

## *Nie przynoś mi kwiatów dziewczyno*

Nie przynoś mi kwiatów dziewczyno,
ja wiem, że czerwone to miłość.
Lecz kiedy już biedne powiędną,
to tak jakby wszystko się śniło.
Nie przynoś mi kwiatów dziewczyno,
znam dobrze wymowę przed wieki,
bo wiem, że gdy umrą w wazonie,
to coś między nami się zmieni.

Nie przynoś mi kwiatów
już nigdy nie przynoś,
choć wiemy, że bez nich
smutniejszy jest świat.
Najlepiej mi uśmiech podaruj dziewczyno,
i bądź przy mnie dłużej,
dłużej niż kwiat.

Nie przynoś mi kwiatów dziewczyno,
ja wiem, że czerwone to miłość.
Lecz kiedy już biedne powiędną,
to tak jakby ciebie nie było.
La, la, la, la, la,
la, la, la, la, la.
Lecz kiedy już biedne powiędną
to tak jakby ciebie nie było.

Nie przynoś mi kwiatów
już nigdy nie przynoś itd.




### Каменны арол

Гэта здымак скалы, зроблены каля вёскі Куларкі, Чыцінскай вобласці (СССР). Ці контуры гэтай скалы не нагадваюць вам арла?



### Яшчэ адно «пахаванне» Міні?

Ірландзец Міхаэл Міні нядаўна заявіў журналістам, што збіраецца «пайсці на пабіццё ўласнага рэкорду». «Мая сенсацыйная фатаграфія ў труне, з якой тырчала рука, абышла ўвесь свет, — сказаў Міні. — Рэклама прынесла мне сякі-такі даход. Таму я з задавальненнем зноў лягу ў труну».

Міхаэлу Міні належыць самы вар'яцкі рэкорд у чалавечай гісторыі. Ён праляжаў 61 дзень жывы ў труне. Цяпер Міні сам збіраецца пабіць свой уласны рэкорд.

Трэба зазначыць, што «вышэйшае дасягненне» ў гэтым «спорце» належала амерыканцу Білу Уайту і раўнялася 59 дням ляжання ў труне. Міні пабіў яго «рэкорд». Калі ірландца вынялі з труны і ўрачыста пранеслі па вуліцах Лондана, кіназорка Дыяна Дорс уручыла яму «Сярэбраны Кубак жывымі пахаваных». «Каб не страціць гэту ганаровую ўзнагароду, — гаворыць Міні, — я збіраюся днямі спусціцца ў замагільнае царства мінімум на тры месяцы».



**Для некаторых самы цяжкі пераход — перайсці ад слоў да справы.**

(С. Мех)